ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№10 (55) кастрычнік 2015 год

CATHOLICNEWS.BY

## Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч павіншаваў Святлану Алексіевіч з Нобелеўскай прэміяй

Стар. 2



## У Камаях асвяцілі адноўлены жывапіс у касцёле...

Стар. 7



## Біскуп Яшэўскі SDB прыняў актыўны ўдзел у каталіцкім “суботніку” ў Магілёве

Стар. 2



## Святар упершыню арганізаваў свята кветак у Росіцы

Стар. 6



## Клопат пра мінулае, або Некалькі развагаў да Дня Усіх Святых

Стар. 6–7



## Ці сапраўды Hello Kitty – справа сатаны?




Стар. 3

## Птушыны вырай у Павяцці

Стар. 8



# Амерыканскія СМІ: “Папа Францішак заваяваў сэрцы вернікаў!”


Папа сустрэўся з вязнямі ў Філадэльфіі падчас свайго візіту ў ЗША.

**“Папа Францішак заваяваў сэрцы амерыканцаў”, – напісала аўтарытэтнае выданне “The Washington Post”, падводзячы вынікі Апостальскага візіту Святога Айца ў Злучаныя Штаты Амерыкі, які завяршыўся 28 верасня гэтага года.**

Паводле журналіста Марка Фішэра, тыя, хто жадаў убачыць “Папу-палітыка”, расчараваліся, таму што ў краіну прыбыў сапраўдны пастыр. У гэтай якасці ён падарожнічаў і прапаведваў, дадаў аўтар.

Ватыканскае радыё паведамляе, што “The Financial Times” звярнула ўвагу на заклік Святога Айца да біскупаў пра неабходнасць прыняцця зменаў у грамадстве, якое пастаянна эвалюцыянуе. Выданне падкрэсліла, што Папа заклікаў амерыканскіх іерархаў спаўняць сваю пастырскую місію, не дазваляючы паралізаваць сябе страхам перад пераменамі, якія перажывае сучаснае грамадства. Звяртаецца таксама ўвага на тое, што на працягу свайго візіту ў ЗША Пантыфік шматразова падкрэсліваў важнасць інстытута сям’і.

“USA Today” адзначыла, што Францішак здолеў усяго некалькімі словамі кранучь шматлікія сэрцы, у сваім простым і непасрэдным стылі, уздымаючы самыя далікатныя і актуальныя тэмы. Паводле выдання, чаканні амерыканцаў ад візіту Святога Айца споўніліся цалкам.

Папулярнае выданне “The Guardian” перакананa, што візіт Папы будзе мець станоўчыя вынікі ў доўгай перспектыве. Газета прывяла на сваіх старонках меркаванне, што раніцай пасля візіту Францішка “краіна прачнецца як звычайна, але праз некалькі дзён яе прабуджэнне будзе іншым: салодкім, вельмі салодкім”.

Папа Францішак наведаў у верасні 2015 года Кубу і Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе правёў 4 і 6 дзён адпаведна, сустракаючыся з кіроўнымі элітамі і вернікамі Каталіцкага Касцёла.

# Кс. Ламбардзі: у ААН Папу выслухалі з вялікай пашанай

**Словы Папы Францішка, скіраваныя 25 верасня 2015 года да Генеральнай Асамблеі ААН, былі выслуханы з вялікай пашанай, адзначыў кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы кс. Фэдэрыка Ламбардзі.**

У адрозненні ад іншых выступленняў Рымскіх Пантыфікаў у ААН, у гэты раз аўдыторыя была больш шырокай і важнай, заўважыў ён у інтэрв’ю Ватыканскаму радыё.

Францішак “з вялікай эфектыўнасцю” казаў пра неабходнасць канкрэтнай дзейнасці ў вырашэнні глабальных праблем і недапушчальнасці спынення толькі на ўзроўні размоваў, нагадаў кс. Ламбардзі. “Вельмі моцнымі” ён назваў заклікі Святога Айца да міжнародных фінансавых інстытутаў, якія павінны дапамагаць краінам, што знаходзяцца на шляху развіцця, а не падпарадкоўваць іх праз крэдытныя сістэмы.

Паводле кіраўніка Залы Друку, Папа ясна выказаўся пра неабходнасць аховы навакольнага асяроддзя і атамнага раззбраення. Францішак станоўча ацаніў дамову па іранскай атамнай праграме, а гэта, на думку кс. Ламбардзі, важная заява, бо названае пагадненне было “ацэнена не ўсімі”.

Кажучы пра ахову прыроды, Пантыфік зрабіў спасылку на прыроду чалавека, якая прадугледжвае існаванне адметнасцяў паміж мужчынам і жанчынай і абсалютную павагу да жыцця на ўсіх яго этапах. “Такім чынам, ён не страціў магчымасці, каб прадставіць таксама і пазіцыю Касцёла па дастаткова важных пытаннях”, – сказаў кс. Ламбардзі.

Прадстаўнік Святога Пасаду нагадаў, што адной з цэнтральных тэмаў візіту Францішка на Кубу і ў ЗША з’яўляецца тэма міру. Пра гэта Папа выказаўся аўтарытэтна і мужна, а яго словы былі “выслуханы сапраўды з вялікай пашанай”, падкрэсліў кс. Ламбардзі.



# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч павіншаваў Святлану Алексіевіч з Нобелеўскай прэміяй



**Глыбокапаважаная Святлана Аляксандраўна!**

Знаходзячыся ў Вечным горадзе, Рыме, і прымаючы ўдзел у Сінодзе Біскупаў на тэму «Пакліканне і місія сям’і ў Касцёле і сучасным свеце», я з вялікай радасцю ўспрыняў вестку аб прысуджэнні Вам Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры за 2015 год. Вашы прасякнутыя пачуццямі цярпення і гуманізму літаратурныя творы атрымалі найвышэйшую ацэнку. Гэта прызнанне Вашай літаратурнай дзейнасці на сусветным узроўні, а таксама вялікі гонар для нашай багатай на таленты Бацькаўшчыны Беларусі.

Упэўнены, што такая высокая міжнародная ўзнагарода стане для Вас новым натхненнем у далейшай творчай дзейнасці, дапаможа ў выхаванні новых пакаленняў літаратараў-гуманістаў і заахвоціць нашых суайчыннікаў імкнуцца да новых вышыняў у галінах навукі, тэхналогіі, культуры, мастацтва, літаратуры і іншых сферах дзейнасці чалавека. Ад усяго сэрца віншую Вас як першага беларускага лаўрэата Нобеля і жадаю Божага благаслаўлення.

*З павагай і малітвай аб Вашым служэнні Беларусі,*
***Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч** –*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*

# Біскуп Яшэўскі SDB прыняў актыўны ўдзел у каталіцкім “суботніку” ў Магілёве

**Па ініцыятыве біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB 26 верасня адбылася сумесная праца святароў і вернікаў Магілёўшчыны на тэрыторыі будынка па вул. Ленінская, 27.**

На просьбу біскупа дапамагчы распачаць добраўпарадкаванне тэрыторыі будынка, які плануецца ў будучыні прыстасаваць у душпастырскі цэнтр для Каталіцкага Касцёла Магілёўшчыны, з ахвотай адгукнуліся святары і вернікі не толькі ўсіх магілёўскіх парафій, але і з Бабруйска, Касцюковіч, Горак, Чавусаў, Шклова, Фашчаўкі.

Цяжка было пачаць, асабліва тады, калі мы пабачылі стан рэчаў, але без сумневу, благаслаўленне на пачатак працы, удзеленае біскупам Аляксандрам, дапамагло, як і тое, што іерарх не толькі благаславіў на працу, але і сам быў вельмі актыўным удзельнікам акцыі!

Безумоўна, тое, што было зроблена, нехта можа палічыць мізэрным у параўнанні з тым, што яшчэ трэба зрабіць (неабходная амаль поўная рэканструкцыя будынка). Аднак сам факт, што мы змаглі сабрацца разам, што маглі праславіць Бога і праз працу, з’яўляецца відавочным знакам, што сапраўды разам можам зрабіць шмат.

*mohylev-katolik.by*


Біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB благаслаўляе вернікаў на працу.

# У “Місіі Добрага Самараніна” адзначылі Дзень Маці

Мінск

**У Дзень Маці дзеці з выхавальнікамі пры “Дабрачыннай Місіі Добрага Самараніна пад апекай святой Уршулі Ледухоўскай” у Мінску зладзілі святочны канцэрт для сваіх мам.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*



Урачыста апранутыя, з радасным настроем дзеці пайшлі напачатку ў капліцу, дзе іх прывітала дырэктар Місіі сястра Часлава Навіцкая.

Разам дзеці маліліся за сваіх мам, просячы для іх здароўя, усмешак і радасці. Пасля кожны запаліў свечкі і ў цёплых абдымках любові ўручыў іх сваім матулям.

Напрыканцы малітвы кс. Віктар Місевіч пажадаў дзецям і іх мамам жыць ва ўзаемнай любові паміж сабой і з Госпадам і ўдзяліў святарскае благаслаўленне.

Потым адбыўся святочны канцэрт. 30 дзяцей пры “Місіі” вывучаюць англійскую і польскую мовы, таму вершы і спевы былі не толькі па-беларуску, але і на замежных мовах.

Пасля выступлення дзеці, мамы і выхавальнікі пайшлі на святочны пачастунак.

“Каталіцкі Веснік” ужо пісаў пра будаўніцтва першай у Беларусі каталіцкай школы. Сама “Місія Добрага Самараніна” – добрая справа. Місія зарэгістраваная і дзейнічае пры мінскай катэдры і Чырвоным касцёле. Але для таго, каб працягваць працу ў больш шырокіх маштабах, патрэбны будынак. У



2011 годзе ў Мінску па вуліцы Серафімовіча ўладамі на баланс Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі быў перададзены будынак былой школы, які знаходзіўся ў аварыйным стане. Цяпер там актыўна вядуцца рэканструкцыйныя работы.

Пасля аднаўлення школа па вуліцы Серафімовіча ў Мінску будзе аддадзена ў карыстанне “Дабрачыннай Місіі Добрага Самараніна пад апекай святой Уршулі Ледухоўскай”. “Місія” займаецца выхаваннем дзяцей, у тым ліку дзяцей-інвалідаў, пачынаючы ўжо ад трохгадовага ўзросту і аж да дасягнення імі паўнагоддзя.

**Ахвяраванні на рамонт школы можна скласці на рахунак: РА “Дабрачынная Місія Добрага Самараніна пад апекай Святой Уршулі Ледухоўскай”, вул. Рэвалюцыйная, 1а, п. 7, 220030 Мінск, Рэспубліка Беларусь. Тэл.:(+37517)2036844,факс: (+37517) 2269092, 2890659. Р/р 3015006161009 ААТ “Белзнешэканомбанк”, вул. Мяснікова, 32 УНП 102366022, код 226; АКПА 37527104; САВУ 18990**

Мінск

## Імша на падмурках

**У раёне в. Копішча 4 кастрычніка адбылася адпустовая ўрачыстасць у парафіі св. Францішка Асізскага.**

А 13-й гадзіне вернікі сабраліся каля падмурка будучага касцёла каля вёсак Копішча і Новая Баравая, дзе парафіянамі быў клапатліва падрыхтаваны часовы алтар для адпраўлення святой Імшы.

Урачыстую цэлебрацыю ўзначаліў новы пробашч парафіі св. Францішка а. Арыюш Малыска OFMCap. У канцэлебры таксама ўдзельнічалі а. Алег Шэнда OFMCap і а. Андрэй Жылевіч OFMCap.

Незвычайныя ўмовы літургічнай цэлебрацыі, а таксама самалёты і парашутысты не перашкодзілі ўдзельнікам глыбока і ў духу хрысціянскага адзінства перажыць гэтае свята.

На заканчэнне св. Імшы адбылося ўшанаванне рэліквій св. Францішка, а пасля гэтага ўдзельнікаў запрасілі на шчодры пачастунак, які падрыхтавалі актыўныя парафіяне.

Варта нагадаць, што 17 верасня ў парафіі Святога Францішка Асізскага былі асвечаны падмурак новага касцёла і краевугольны камень. Урачыстую Імшу з гэтай нагоды цэлебраваў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскіарцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Таксама ўрачыстасць наведалі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, прадстаўнікі капуцынаў, многія святары Мяншчыны.

***Брат Яраслаў Крыловіч***
*kapucyny.by*



# Ці сапраўды Hello Kitty – справа сатаны?

**Чуткі, што распаўсюджваюцца праз Інтэрнэт, сцвярджаюць, што Hello Kitty – на сусветным узроўні вядомы сімвал масавай культуры – на самай справе з’яўляецца справай сатаны.**

Чуткі распаўсюджваюцца ў розных версіях. Чалавек (у некаторых выпадках бацька, а ў некаторых – маці), які меў хворае дзіця (у некаторых выпадках немаўля, а ў іншых – дванаццацігадовую дзяўчынку, хворую на рак), абяцаў Сатане, што калі дзіця паправіцца, то ў такім разе ён/яна зробіць ляльку, з якой увесь свет будзе дурэць. А лялька гэтая стане сродкам сатанінскага ўздзеяння на маладых. Так, як сцвярджае легенда, у супрацоўніцтве з чорнымі сіламі і японскай фірмай Sanrio і паўстала Hello Kitty, чыя выява цяпер выкарыстоўваецца на многіх вырабах для дзяцей. Далей легенда гаворыць, што імя Hello Kitty на самай справе – гэта «Hell o Kitty» (пекла, о Кіцці – англ.). Па іншай версіі легенды, «Kitty» нібыта на кітайскай азначае «дэман». Як бы там ні было, але легенда сцвярджае, што імя вядомага кацяняці быццам з’яўляецца прывітаннем злым сілам. Каб яшчэ больш упрыгожыць легенду, гавораць, што ружовы колер, які часта асацыюецца з Hello Kitty, нібыта прываблівае дзяцей у сексуальную сферу, што гэта колер Нью Эйдж і да таго падобнае.

> **“Звязваць Hello Kitty з сатанізмам – падманлівая і неабгрунтавана”**

Каталіцкі партал Bitno.net правёў даследаванне названага пытання. Паводле атрыманых вынікаў, чуткі пра сатанінскі характар Hello Kitty аказаліся неабгрунтаванымі. Сам брэнд Hello Kitty, які належыць японскай фірме Sanrio, паўстаў яшчэ ў далёкім 1974 годзе і ніколі нікім да 2008-га не прывязваўся да сатанізму. У кітайскай мове няма слова «Kitty». Такое слова адсутнічае таксама і ў японскай мове. І ўжо зусім неапраўдана раскладваць англійскае прывітанне «Hello» на «Hell o».




Крыніцай легенды сталі электронныя лісты на іспанскай мове, якія ў 2008 годзе масава “заспамілі” карыстальнікаў з розных краін, падаючы ўжо ў самым пачатку розныя версіі «сатанінскай» легенды пра Hello Kitty. Пазней з’явіліся панічныя відэа на YouTube.

Вядома, можна крытычна ставіцца да брэнду Hello Kitty як да феномену грамадства, пабудаванага на страшэнным спажывецтве, але звязваць Hello Kitty з сатанізмам – падманлівая і неабгрунтавана.

*Паводле «Католицький Оглядач»*

# Цуд у Дунілавічах: няпростая гісторыя аднаго касцёла



**Дунілавіцкі абраз Маці Божай Ларэтанскай.**

**У былым мястэчку Дунілавічы, што ў Пастаўскім раёне, 29 верасня католікі адзначылі двайны юбілей: 515 гадоў з часу ўтварэння мясцовай каталіцкай парафіі і 245-годдзе касцёла.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

## Крыху гісторыі

Сучасны цагляны храм быў пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя манахамі-дамініканцамі, сваю гісторыю ён адлічвае ад 1770 года. Апошнія мелі тут двухпавярховы мураваны кляштар, які да нашых дзён не захаваўся. Да ўзвядзення мураванай святыні на гэтым месцы стаяў драўляны касцёл, пабудаваны ў XVII стагоддзі.

Пасля таго, як манахі падтрымалі антырасійскае паўстанне, царскі ўрад у 1866 годзе перадаў храм праваслаўнай царкве. Пры пераабсталяванні святыні пад царкву сіняй фарбай былі замаляваныя ўсе старыя фрэскі. У наш час некаторыя з іх знойдзеныя пад двума пластамі фарбы. У многім дзякуючы гэтай знаходцы ўдалося аднавіць першапачатковы роспіс храма.

Пасля перадачы святыні праваслаўнай царкве насупраць былі пастаўлены драўляны касцёл, які згарэў у 1890 годзе. Царскія ўлады забаранілі яго аднаўленне, таму новы драўляны храм парафіяне вымушана збудавалі па-за мястэчкам. Да нашых дзён ён таксама не захаваўся.

У 1919 годзе, калі Дунілавічы патрапілі ў склад аднолўненай польскай дзяржавы, храм быў перададзены католікам. У 1932-ым Дунілавіцкая парафія налічвала 7600 вернікаў. Касцёл дзейнічаў да 1946 года, пасля чаго быў зачынены савецкімі ўладамі. Святара рэпрэсавалі, а святыня на некаторы час ператварылася ў склад збожжа. Пасля будаўніцтва ў калгасе новага збожжасховішча храм наогул стаяў закінуты, у ім пацёк дах, ён стаў паступова разбурацца.

Сітуацыя змянілася, калі ў 1989 годзе будынак зноў быў перададзены каталіцкім вернікам. Пачалася праца па яго аднаўленні. Зараз храм ужо адрамантаваны ўнутры, вядуцца працы па далейшым добраўпарадкаванні тэрыторыі вакол святыні, каб годна сустрэць у 2020 годзе 250-гадовы юбілей касцёла, які цяпер носіць імя Святой Тройцы.

## Цудадзейны абраз

Варта адзначыць, што алтар у дунілавіцкім касцёле двух'ярусны, а гэта не так часта можна бачыць. На другім ярусе змешчаны абраз Маці Божай Ларэтанскай, які лічыцца цудадзейным. У парафіі ён з'явіўся ў 1667 годзе, калі яшчэ не было сучаснага касцёла.

Маці Божая Ларэтанская дапамагла шмат каму з вернікаў, пра што сведчылі шматлікія воты, змешчаныя каля абраза. На жаль, калі камуністычныя ўлады зачынілі касцёл, гэтыя воты зніклі. Сам жа абраз вернікі ўратавалі. Ноччу ён быў вынесены праз акно храма і захоўваўся на гарышчы ў аднаго з вернікаў. Пасля вяртання касцёла абраз зноў перадалі ў храм, дзе ён заняў сваё месца.

Ужо ў наш час абраз таксама дапамагае вернікам. Пра гэта сведчаць чатыры новыя воты, якія змешчаны пад абразом. Пра адзін цуд нам распавёў пробашч касцёла кс. Павел Самсонаў. "Гэта здарылася ў першы год маёй працы ў Дунілавічах, – гаворыць пробашч. – Прыходзіць да мяне жанчына і кажа: у мяне праблема, ксёндз, што мне рабіць, мае дзеці разводзяцца. Я ёй параіў памаліцца да Маці Божай Ларэтанскай. Недзе праз год прыходзяць да мяне гэтыя старэйшыя людзі і прыносяць залаты шлюбны пярсцёнак і кажуць, што хочуць аддаць яго да Маці Божай. Яна ўратавала сям'ю нашых дзяцей, яны сталі добра жыць, праблемы зніклі".

Пад абразом захоўваюцца яшчэ тры воты, пра якія вернікі абяцалі распавесці пазней.

Зараз ідзе аднаўленне культу абраза Маці Божай Ларэтанскай, штогод усё больш вернікаў даведваюцца пра гэта і прыязджаюць у Дунілавічы, каб звярнуцца са сваімі просьбамі да нябеснай Заступніцы.

## Ушанаванне святога Міхала Арханёла

Фэст на дзень святога Міхала Арханёла праводзіцца ў Дунілавічах з даўніх часоў. Гэты святы лічыцца патронам парафіі, бо касцёл першапачаткова быў асвечаны пад тытулам Міхала Арханёла. Па словах пробашча парафіі, нават у савецкія часы, калі касцёл быў зачынены, вернікі прыязджалі ў гэты дзень да святыні, каб памаліцца каля яе сцены.

Зараз жа фэсты ў Дунілавічах на свята Міхала Арханёла сталі традыцыйнымі. У мінулым годзе ўрачыстасць наведаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, сёлета ганаровым госцем фэсту стаў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Ён і ўзначаліў святую Імшу.

Трэба адзначыць, што на свята, нягледзячы на працоўны дзень, сабралася больш за тры сотні вернікаў як з Дунілавіцкай парафіі, так і гасцей з Глыбокага, Канстанцінава, Паставаў, Варапаева, Лучая і іншых месцаў. Таксама прысутнічалі святары з навакольных парафій.

У сваім слове да вернікаў біскуп Аляксандр паразважаў над вытокамі зла ў сучасным свеце і значэнні святога Міхала Арханёла для Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. У прыватнасці, ён сказаў: "Мы маем магчымасць падзякаваць Пану Богу за дар заступніцтва Арханёла ў небе не толькі над вашай парафіяй, але і над усім Каталіцкім Касцёлам у Беларусі".

Па словах іерарха, наш прыход у касцёл можна апісаць трыма словамі: слухаем, шукаем, сустракаем. Далей ён растлумачыў значэнне кожнага з гэтых словаў.

Закончылася набажэнства працэсіяй вакол касцёла і спевам гімна "Магутны Божа". Дарэчы, заканчваць урачыстыя богаслужэнні гэтым гімнам стала ў Беларусі ўжо добрай традыцыяй.

> **"Навучыцеся размаўляць з Панам Богам, як дзіця"**

Але на гэтым свята ў Дунілавічах не закончылася: парафіян і гасцей чакаў канцэрт і пачастунак на свежым паветры. Варта адзначыць, што артысты на канцэрце былі свае, з Дунілавіцкай парафіі. Як кажуць самі парафіяне, яны былі раней неактыўныя, але дзякуючы энергіі пробашча ксяндза Паўла навучыліся і ў хоры спяваць, і свае канцэрты праводзяць. Што лішні раз пацвярджае думку: усюды ёсць таленты, трэба толькі таленавіты арганізатар.

Напрыканцы біскуп Аляксандр пажадаў чытачам "Каталіцкага Весніка" не саромецца сваёй веры, часцей звяртацца да Бога ў малітвах, нават калі гэтыя малітвы будуць не завучаныя, а казацца сваімі словамі.

"Навучыцеся размаўляць з Панам Богам, як дзіця, – параіў біскуп, – хоць часам гэта нейкае балбатанне, але яно заўсёды шчырае, выходзіць ад самага сэрца. Такой павінна быць і наша малітва".

Ну а мы жадаем вернікам Дунілавіцкай парафіі паспець годна падрыхтавацца да 2020 года, калі мясцовая святыня адзначыць чвэрць тысячагоддзя свайго існавання.





# Дунілавічы дзякуюць

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

**Касцёлы, як і людзі, жывуць сваім жыццём: гояць нанесеныя ім раны, усміхаюцца, калі ў іх радасць.**

29 верасня, у дзень святога Міхала Арханёла, касцёл Святой Тройцы ў Дунілавічах святкаваў свой юбілей. Святыня адзначала свой юбілей. Непаўторнай прыгажосцю сустракаў вернікаў касцёл. Чысціня, парадак, навокал мноства кветак. Арыгінальнымі букетамі і кампазіцыямі аздоблены галоўны алтар і алтар Міхала Арханёла.

На ўрачыстасць прыехала шмат гасцей з суседніх парафій: з Валкалатаў, Варапаева, Глыбокага, Лучая, Пастаў.Святую Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Пасля набажэнства адбыўся канцэрт удзельнікаў мастацкай самадзейнасці мясцовага Дома культуры.

Святы Міхал Арханёл з'яўляецца апекуном вёскі Дунілавічы. Дарэчы, кожная вёска ў нашай парафіі мае сваіх апекуноў і адзначае іх дні са святой Імшой і пачастункамі. Вось і на парафіяльным свяце былі падрыхтаваныя пачастункі, нават гарачая юшка.

Самыя шчырыя і цёплыя словы ўдзячнасці хочам выказаць нашаму духоўнаму настаўніку, які стаў арганізатарам свята, пробашчу парафіі ксяндзу Паўлу Самсонаву. У нас ён працуе шосты год. Як на духоўнай ніве, так і ў справе адраджэння святыні надзвычай шмат працы.

За апошні час непазнавальна змяніўся будынак касцёла, унутры праведзены вялікі рамонт. Мы, парафіяне, адчуваем сябе зараз нібы ў раі. Абраз Маці Божай Ларэтанскай зіхаціць у золаце. Нават дары сталі прыносіць вернікі, якія праз малітву адчулі апеку і падтрымку Маці Нябеснай. І ўсё гэта дзякуючы намаганням нашага святара. Пан Бог надзяліў ксяндза Паўла розумам, абаяльнасцю, цудоўным голасам, шчырым і добрым сэрцам. Ксёндз Павел сціплы чалавек, ён не прыпісвае ўсе заслугі сабе, а раздзяляе іх паміж Панам Богам і вернікамі. Наш святар – шматгранная асоба, бо ён не толькі добры будаўнік, арганізатар, але і цудоўны пастыр. Ён руплівы, мудры, выхавацель, сардэчны і інтэлектуальны чалавек, які, не шкадуючы сіл і здароўя, заўсёды знаходзіць для нас добрае слова, вучыць любіць Пана Бога і Найсвяцейшую Панну Марыю, вучыць кожнага з нас шукаць свой непаўторны шлях да Бога, несці любоў, супакой і святло Божай любові ў наша шэрае штодзённае жыццё.

Кожную нядзелю з затоеным дыханнем мы слухаем павучальныя казанні. Як мудра і далікатна ўмее ксёндз Павел супаставіць словы Евангелля і сённяшняе жыццё, умее і пакрытыкаваць, і пахваліць нас як добры і справядлівы бацька.

Хочацца падзякаваць Вам, паважаны ксёндз Павел, за энергічнасць, цярпенне і спагаду, за малітву, за цудоўныя спевы, мудрыя казанні, за прыклад пабожнасці і дабрыні. Моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, шчодрых дароў Духа Святога, апекі Маці Найсвяцейшай для Вас, Вашых бацькоў, іншых родных!

Будзем спадзявацца, што міласэрны Бог выслухае і благаславіць нашы штодзённыя малітвы і просьбы, каб яшчэ доўгі час Вы заставаліся ў нашай парафіі. Будзем мець надзею, што пад зоркім вокам святара з вернікаў нашай парафіі атрымаецца моцная, дружная, шчырая духоўная сям'я.

*Удзячныя парафіяне касцёла Святой Тройцы, в. Дунілавічы (Пастаўскі раён)*

# Маці Міласэрнасці, у Табе наша надзея!

**Скончылася лета. Пачалася восень са сваімі радасцямі і клопатамі. Кастрычнік – асаблівы восеньскі месяц, ён прысвечаны штодзённай малітве ружанцовай на ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Шчырыя малітвы да нашай Апякункі прыносяць канкрэтную дапамогу, умацоўваючы ў барацьбе з чалавечымі слабасцямі, выконваючы просьбы аб нараджэнні дзяцей у бацькоў, якія страцілі надзею іх мець, урачуючы безнадзейна хворых, даруючы час для пакаяння. Ніколі не прыпыняецца ўдзел Маці Божай у нашым жыцці, адкрываючы ўсё новыя і новыя прыклады цудоўнага заступніцтва.

## Яднанне парафіі

У Лынтупскай парафіі св. Андрэя кожны вечар перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам адбываецца ўрачыстае набажэнства. Разам з кс. Паўлам Кнурэкам удзельнікі касцельных супольнасцяў чытаюць частку Святога Ружанца. А ў нядзелю молімся частку Хвалебную на ўшанаванне Хрыста Уваскрослага. Пад прыгожыя спевы парафіяльнага хору ў адзіным імкненні кленчаць, схіляючы галовы, сталыя людзі і маладзенькія маці з дзецьмі на руках, сур'ёзныя мужчыны і гарэзлівыя падлеткі. Гэта незабыўныя і хвалюючыя моманты нашага духоўнага жыцця, якое нястомна развівае кс. Павел, надаючы яму ўсё новыя адценні, паглыбляючы нашу веру, набліжаючы нас да Пана Бога.

## Малітва, якая яднае пакаленні

Ужо шмат гадоў раніцай і ўвечары чытаю Святы Ружанец перад абразом Найсвяцейшай Панны Марыі з Езусам на руках. Ён застаўся мне ад бабулі, вельмі пабожнай жанчыны. Вечны спакой яе душы ў небе.

Калі я была зусім маленькай, залазіла на стол і гадзінамі глядзела на гэты абраз. Бабуліны тлумачэнні не зусім разумела сваім дзіцячым розумам. Я бачыла прыгожую маладую жанчыну з дзіцяткам на руках, якая ласкава глядзела на мяне. Было так цёпла і добра пад гэтым поглядам. І цяпер, сталай жанчынай, калі перабіраю пацеркі ружанца, бачу вочы Маці Божай, якія глядзяць на мяне то строга і сур'ёзна, то свецяцца дабрынёй і спагадай, а ледзь прыкметная ўсмешка кранае яе вусны.

Малюся аб праслаўленні і ўшанаванні Найсвяцейшай Панны, звяртаюся з просьбамі аб захаванні ад небяспекі, дзякую за спасланыя літасць і міласэрнасць, за суцяшэнне і дапамогу ў цяжкія хвіліны жыцця.

Задуменна, са смуткам і незямной веліччу глядзіць на мяне Нябесная Маці, прадчуваючы смерць Сына. Са слязьмі на вачах малюся я, зямная маці, просячы аб дарах найкаштоўнейшага скарбу – веры і надзеі на ласку Пана для сябе, сваіх родных і сяброў, маёй парафіі, маёй Радзімы Беларусі, аб заступніцтве для людзей, якія пакутуюць ад жахаў вайны, пераследу, якія церпяць ад голаду і хвароб.

О, Маці Божая, заступіся за нас, адсячы карэнні нашых грахоў, узнось нашы думкі да Бога, вучы нас любові і спагадлівасці! Бо ў Пісанні сказана: "Той, хто не любіць, не ведае Бога" (1 Ян. 4,8).

*Нэля Лось, г.п. Лынтупы*

# Спяшайся зрабіць дабро!

**Пад такім заклікам у нашай парафіі св. Станіслава ў Далёкіх з 4 па 11 кастрычніка прайшоў Тыдзень міласэрнасці. Нехта некалі сказаў: "Любы міласэрны ўчынак – гэта такі "вірус", які нясе з сабой Божую ласку. Чалавек, каторы бачыць тваё дабро, заўтра ці паслязаўтра адважыцца на высакародны ўчынак!" І сапраўды, гэта так.**

**Ірына Высоцкая**, *тэкст;* **Эма Станкевіч**, *фота*

Ад адных усё часцей чуеш, што яны вельмі занятыя, што ў іх многа праблем або штодзённых спраў, што мала грошай, што няма здароўя, што ў некага ўсё лепшае: і дом, і дзеці, і праца, і заробак. А іншыя толькі сябе і сваіх блізкіх лічаць самымі разумнымі, самымі правільнымі.

А можа, справа ў тым, што людзі развучыліся рабіць бескарыслівыя жэсты і праяўляць міласэрнасць? Развучыліся слухаць і маўчаць? Не хочуць пачуць, што ім кажа Бог?

У кожны дом былі разнесеныя лісты з прапановай на працягу тыдня зрабіць міласэрны ўчынак (наведаць хворага, падзяліцца чымнебудзь з тымі, хто мае патрэбу, дапамагчы ва ўборцы ўраджаю, папрацаваць каля касцёла) і інфармацыяй пра адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту кожны дзень. Ініцыятыву падтрымалі вернікі з усіх вуліц нашай вёскі і з маленькіх вёсачак. Многія знайшлі час для таго, каб прыйсці ў касцёл на адарацыю і святую Імшу. У час адарацыі прамаўлялі Вяночак да Божай Міласэрнасці, Літанію да Найсвяцейшага Імя Езуса і Святы Ружанец, чыталі з 5-га па 7-ы раздзелы Евангелля паводле Мацвея, спявалі песні і проста маўчалі. Да пачатку адарацыі ксёндз-пробашч Анджэй Бочар адведаў хворых і тых, хто па розных прычынах не можа прыйсці ў касцёл, каб і яны змаглі далучыцца да Тыдня міласэрнасці. У парафіі ўсе сем дзён адчуваўся святочны настрой.



Прыйсці на адарацыю ці не – кожны сам выбірае. Бог заўсёды дае нам магчымасць выбару, Ён не абмяжоўвае нашу свабоду, не маніпулюе намі. А нашым жыццём кіруе толькі тады, калі мы даверaем Яму.

# Клопат пра мінулае,


Парафіяне Дзеркаўшчыны наводзяць парадак на старых могілках.

**Кожны святар у сваёй душпастырскай дзейнасці дзеліць значныя моманты жыцця са сваімі парафіянамі. Пераважна яны радасныя, такія, як хрост, вянчанне, Першая Камунія і г.д... Аднак святарская паслуга была б не поўнай, калі б пастыр не прысутнічаў пры завяршэнні людскога жыцця. Сакрамант намашчэння хворых пры небяспецы смерці, Віятык і само пахаванне. Святар добра ведае, што такое смерць і які сэнс укладае ў яго хрысціянства. Таму памятаць пра памерлых – гэта святы абавязак. Каб прыгледзецца, як выглядае клопат пра спачылых продкаў у Касцёле, сустракаюся з ксяндзом Андрэем Кулікам, пробашчам парафіі ў Дзеркаўшчыне, што ў Глыбоцкім дэканаце Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст і фота*

Ксёндз Андрэй Кулік распавядае: “Мы павінны аддаць даніну памяці памерлым. Гэта выяўляецца ў нашых малітвах, у св. Імшы за спачылых, а таксама ў клопаце пра месца пахавання”. “Людзі самі памятаюць пра гэты абавязак, ці ўсё-такі пробашч мусіць нагадаць пра добраўпарадкаванне могілак?” – пытаюся.

– Парафіяне, канешне, дбаюць і памятаюць пра памерлых. Асабліва тыя сем’і, чые блізкія пахаваныя адносна нядаўна. Аднак што датычыцца вельмі старых могілак, то тут неабходны і напамін з майго боку, і арганізацыя працы, і дапамога сельсавета. Хадземце, пакажу вам, як мы добраўпарадкавалі могілкі, каторым ужо 200 гадоў.

## Новы крыж на старых могілках

Выходзім з плябаніі і праз сотню-другую метраў заўважаем з дзясятак мужчын, якія нешта робяць на ўзвышшы. Аб’ём працы, відавочна, сур’ёзны: побач стаіць і чакае свайго часу трактар. Ксёндз Андрэй тлумачыць: “На гэтым цвінтары раслі вялізныя дрэвы. Могілкі былі ў запусценні. Летась разам з парафіянамі вырашылі навесці тут парадак. Выразалі дрэвы, пачысцілі сам цвінтар. Цяпер вось мужчыны нанова ўстанаўліваюць крыж”.

Падышоўшы бліжэй, вітаемся са старшынёй парафіяльнай рады. Уладзімір Фярковіч гаворыць: “Вельмі непрыгожа выглядала, калі пасярод вёскі старадаўнія могілкі былі ў такім запусценні. Цяпер тут парадак, аж сам від Дзеркаўшчыны ад гэтага змяніўся”. Аглядаюся навокал. Бачу, што на многіх помніках няма крыжоў і шмат дзе зусім не відаць межаў магіл. Ксёндз Андрэй пацвярджае маю думку: “Вось такая ў нас спадчына савецкага мінулага. Пазбіваныя крыжы і зруйнаваныя магілы. Але, дзякуй Богу, тое мінула і, думаю, ужо не паўторыцца. Мы вельмі шчыльна супрацоўнічаем не толькі з простымі людзьмі, але і з прадстаўнікамі ўлады. Без дапамогі старшыні сельсавета Яўгена Клаўдзевіча Татуна нам бы сваімі сіламі не ўдалося зрабіць так многа. Але пачакайце, ён сам усё пакажа і раскажа.

## Віхура і цуд на цвінтары

Развітаўшыся з парафіянамі, праз нейкі час ціснем руку старшыні сельсавета. Ксёндз Андрэй заводзіць гутарку пра блізкае Свята Усіх Святых і неабходнасць падправіць дарогу на вясковыя могілкі. “Цяжкавата ў нас пакуль з грашыма, але нешта прыдумаем”, – кажа Яўген Клаўдзевіч.

А галоўнай тэмай размовы ўсё-такі становіцца не сама дарога на могілкі, а яшчэ адны старыя пахаванні, якія вельмі зараслі хмызняком. Ігар Аляксандравіч запрашае да сябе ў машыну, і мы ад’язджаем на кіламетр убок. Справа ад дарогі, якую трэба падраўняць на свята, бачныя могілкі, на каторых сёння хаваюцца людзі. Гэта бачна па свежых магілах і помніках. Паўсюль заўважаецца парадак і дагледжанасць. Толькі паспяваем зайсці на тэрыторыю могілак, як зводдаль чуецца радаснае: “Хвала Хрысту!” Некаторыя вернікі ўжо прыбіраюць магілы блізкіх, рыхтуючыся да свята, і, заўважыўшы свайго пробашча, спяшаюцца з ім прывітацца.

Старшыня Яўген Клаўдзевіч паказвае на вялізныя бярозы і распавядае: “Тое, што мы тут бачым, гэта частка ад таго, што засталося. Іх было больш. Але аднойчы прыйшла вялікая віхура і паваліла некаторыя дрэвы. Можаце сабе ўявіць, што ні адзін помнік не быў пашкоджаны. Усе велізарныя дрэвы ўпалі якраз паміж магіламі. Я лічу гэта Божым цудам. Мы, калі пазней пілавалі гэтыя бярвёны на кавалкі, баяліся, каб хаця не пашкодзіць помнікі. Але як яны маглі, падаючы, не закрануць ніводнай магілы? Гэта таямніца”. Гляджу на радкі магіл і таксама дзіўлюся з аповеду Яўгена Клаўдзевіча. Паміж некаторымі магіламі – не больш за паўметра адлегласці, і людзі пахаваныя тут не зусім роўнымі радамі. Адчуваецца Божае заступніцтва над гэтым святым месцам. Але тэмай нашага рэпартажу мае быць заступніцтва чалавека і яго клопат пра памерлых. Таму працягваем вандроўку далей.

Ксёндз Андрэй заклікае наведаць магілу былога пробашча Дзеркаўшчыны кс. Яна Макшэцкага. Ён памёр якраз 4 кастрычніка 1959 года. Сёлета акурат 56 гадавіна з дня яго смерці. Кс. Ян хацеў быць пахаваны не каля касцёла, як гэта часта бывае, але разам са сваімі парафіянамі. Праз нейкі час знаходзім гэтую магілу са сціплым помнікам і молімся Angelus Domini, просячы ласку вечнага жыцця

# Святар упершыню арганізаваў свята кветак у Росіцы

**“І кветкі хваляць Пана” – пад такой назвай адбылося 10 кастрычніка свята кветак у касцёле Святой Тройцы ў вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна. Яго ўпершыню арганізаваў тутэйшы айцец-кветкавод Чэслаў Курэчка МІС.**

■ **Таццяна Смоткіна**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Святар разам са сваімі парафіянамі ў ваколіцах касцёла пасадзіў больш за 200 відаў розных кветак і саджанцаў, пра якія распавёў прысутным.

Як кажа а.Чэслаў Курэчка, ён вельмі любіць сваіх парафіянаў і кветкі, якія ім дорыць пры нагодзе. Кожны год да свята жанчын ён вырошчвае цюльпаны, крокусы, геацынты і радуе імі сваіх жанчын-парафіянак. Некаторыя пажылыя бабулі нават расчуляцца і пусцяць слязу, калі ксёндз павіншуе іх кветкамі. Як кажуць яны, гэта вельмі прыемна, што святар пра іх памятае і моліцца за іх, бо яны сядзяць у хаце, амаль нікуды не выходзяць, і ў іх гады ім ужо мала хто дорыць кветкі.



Па словах прыхаджан, як бы цяжка не было, яны дапамагаюць ксяндзу садзіць і даглядаць кветкі, бо разумеюць, што каму як не ім ствараць вакол сябе прыгожае. І яшчэ яны моляць Бога пра тое, каб даў ксяндзу Чэславу здароўя, натхнення і каб яго ніколі ад іх не перавялі ў іншую парафію.

На мерапрыемстве прысутнічаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, які ўзначаліў святую Імшу. Ён выказаў падзяку айцу Чэславу і мясцовым вернікам за тую прыгажосць, якую яны стварылі ў Росіцы. Яго Эксцэленцыя сказаў: “Кожны чалавек заўважае прыгажосць, а найвышэйшай прыгажосцю з’яўляецца сам Бог. І тое, што ён здзяйсняе ў гэтым свеце, – гэта прыгожа. Людзі могуць доўга глядзець як на кветкі, так і на ваду, і на зоркі і г.д. І чалавек – гэта таксама прыгажосць, як знешняя, так і ўнутраная”.

Дапамагаюць працаваць на клумбах і прадстаўнікі мясцовай улады, якія таксама завіталі на свята, каб сказаць словы ўдзячнасці ксяндзу Чэславу і пачаставаць біскупа спечаным сваімі рукамі караваем, а таксама падарыць яму росіцкія кветкі.

На свята ў Росіцу прыехалі і пілігрымы з Полацка, Глыбокага, Барысава, якія таксама тут частыя госці і памагатыя ў працы па вырошчванні кветак. Нягледзячы на далёкую адлегласць, іх цягне сюды адчуванне супакою, захапленне прыгажосцю і жаданне дапамагаць.

Напрыканцы імпрэзы мясцовая жыхарка Алена Мінчанка правяла віктарыну на веданне кветак з уручэннем прызоў. Скончылася свята агульным пачастункам ля вогнішча, дзе галоўнай стравай была грыбная поліўка.

Вядома, што Росіца – гэта сімвал людскога цярпення і мужнасці духу. Тут у гады Другой сусветнай вайны загінулі бязвінныя людзі і айцы-марыяне Антон Ляшчэвіч і Юрый Кашыра. Але сёння Росіца – гэта таксама месца прыгажосці, гармоніі і супакою. Кожны, хто сюды прыязджае, становіцца бліжэй да Бога і іншага чалавека.

# або Некалькі развагаў да Дня Усіх Святых

для ксяндза Яна.

З абсыпаных жоўтым лісцем і прыбраных могілак накіроўваемся на другі бок дарогі. Выходзячы з цвінтара, заўважаю, што агароджа могілак зробленая з паасобных частак. Вельмі мудрае рашэнне, якое дазволіла зрабіць больш свабоднымі самі могілкі і танным коштам агарадзіць вялікую прастору. Гэта яшчэ раз сведчыць пра салідарнасць і ўзаемадапамогу дзеркаўшчынскіх парафіянаў, якія згадзіліся зняць паасобныя агароджы і аддаць іх для агульнай мэты.

### Зарослая памяць

Аднак шмат працы яшчэ наперадзе. Хмызняк, што тырчыць па другі бок гравейкі, – гэта ніштоіншае, як яшчэ адны могілкі. За гушчаром галінаў і рознакаляровай лістоты зусім не бачна помнікаў і магілак. Пра асаблівы статус гэтага месца нагадвае толькі невысокі мур, што зарос мохам і дрэўцамі. Уваходзім на тэрыторыю цвінтара і прабіраемся праз гушчар, каб дайсці да помнікаў. Дарогу паказвае Яўген Клаўдзевіч. Бачна, што ён добра арыентуецца ў мясцовасці. Вось і першыя помнікі. Дзе-нідзе бачная каваная агароджа. Сям-там з-за дрэва выступаюць прыгажуны-манументы з граніту. Мае думкі пацвярджае наш суразмоўца: "Такіх цяпер не робяць у нас, паглядзіце, якая высокая якасць працы і матэрыялу!"

Абмяркоўваем стан могілак і прыходзім да высновы, што трэба збіраць талаку. Ксёндз Андрэй абяцае зрабіць аб'явы ў касцёле, а старшыня сельсавета кажа пра неабходнасць выкарыстаць тэхніку. "Пагавару з кіраўнікамі гаспадарак, нешта зробім. Тут раней раслі таксама вялізныя бярозы, іх спілавалі, а цяпер во хмызняк пайшоў расці". Пакуль ідзём, гутарачы пра добраўпарадкаванне, бачым вялізны помнік у выглядзе спілаванага дуба. Помнік і сапраўды нагадвае спілаванае дрэва. Яўген Клаўдзевіч выказвае народную версію: "Кажуць, што такія помнікі ставіліся, калі на нябожчыку заканчваўся род".



Разам з парафіянамі працуе і пробашч ксёндз Андрэй Кулік.



кс. Андрэй Кулік і старшыня сельсавета Яўген Татун.

Нарэшце дамоўленасць дасягнутая і даты вызначаныя. На гэтым месцы збяруцца шчырыя вернікі, каб навесці парадак на старых могілках. Слухаючы размову пробашча ксяндза Андрэя са старшынёй сельсавета Яўгенам Клаўдзевічам, міжволі стараюся знайсці адказ на пытанне: "Чаму так сталася, што зусім недалёка ад пасёлка існуюць закінутыя могілкі?" Адказ хаваецца ў мінулым стагоддзі, калі ўсе могілкі сталі камунальнымі. Касцёл не меў права нешта рабіць на іх і добраўпарадкоўваць, а бязбожная савецкая ўлада, думаючы пра светлую будучыню, зусім не дбала пра мінулае. Таму вельмі прыемна, што ў часы незалежнай Беларусі людзі выпраўляюць старыя памылкі і пачынаюць шанаваць сваіх продкаў.

Успамінаю мудрае выслоўе: "Народ, які не ведае сваёй гісторыі, не мае будучыні". Так, можна вывучаць у школе гісторыю і ведаць на памяць даты бітваў. Можна завучыць радаводы вялікіх князёў і ганарыцца веліччу замкаў. Але сапраўдная гісторыя, яна тут, недалёка. Яна там, дзе пахаваныя твае блізкія, дзе знайшлі спачын невядомыя героі войнаў ці ляжаць проста далёкія сваякі тваіх суседзяў, што выехалі за мяжу. І гэтая гісторыя вымагае памяці і клопату. Дбаючы пра яе, мы маем будучыню, што прасціраецца ў вечнасць.

# У Камаях асвяцілі адноўлены жывапіс у касцёле...

## А таксама адзначылі стагоддзе ад пачатку святарскай дзейнасці кс. Канстанціна Стаповіча

**Мерапрыемства адбылося ў нядзелю, 18 кастрычніка. Касцёл быў цалкам запоўнены вернікамі Камайскай парафіі. Прысутнічала і шмат гасцей з іншых мясцін Беларусі.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Святочную Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Перад пачаткам набажэнства пробашч касцёла ў Камаях Яцэк Хутман адзначыў, што біскупы з'яўляюцца апосталамі сённяшняга дня, таму наведванне парафіі біскупам Алегам трэба разглядаць як вельмі адметную і важную падзею для парафіі.

Падчас святой Імшы віцебскі ардынарый удзяліў сакрамант канфірмацыі, або бежмавання, некалькі дзясяткам вернікаў. У сваім слове да вернікаў біскуп адзначыў, што ў сённяшні час як ніколі важна жывое сведчанне веры. Не толькі біскупы, ксяндзы і дыяканы павінны сведчыць пра Бога і сваім служэннем паказваць прыклад, але гэта мусіць рабіць і кожны вернік.

Мы ўсе праз сакрамант хросту прымаем святарскую ўладу Езуса Хрыста, адзначыў іерарх і падкрэсліў, што задача кожнага з вернікаў разгледзець у сабе гэты дар і выкарыстаць яго для распаўсюджвання Божага слова.

Напрыканцы Імшы быў асвечаны адноўлены жывапіс, які адрэстаўравалі цягам апошняга года.

Ужо пасля набажэнства ў плябаніі адбылося мерапрыемства, прысвечанае стагоддзю дзейнасці святара Канстанціна Стаповіча, больш вядомага пад творчым псеўданімам Казімір Сваяк. Ён пражыў кароткае, але вельмі насычанае жыццё. Сваю святарскую дзейнасць распачаў у Камаях у жніўні 1915 года. Ён пісаў вершы, публіцыстыку, драматычныя творы. Казімір Сваяк хацеў, каб у беларускіх касцёлах гучала родная мова, праз гэта шмат чаго выцерпеў ад тагачасных уладаў.

Падрыхтавала імпрэзу сваячка Канстанціна Стаповіча Іаланта Валуевіч з Астравеччыны. Тут таксама выступілі краязнаўца Іван Драўніцкі, які шмат ведае пра гісторыю касцёла ў Камаях, мастак Алесь Цыркуноў, каторы многа робіць для захавання творчай спадчыны Альфрэда Ромера, парафіянка Яніна Сінкевіч, якая прачытала верш Казіміра Сваяка. Гурт "Балцкі субстрат" парадаваў прысутных сваімі спевамі.

Дзякуючы працы ксяндза Яцэка Хутмана, які з'яўляецца не толькі выдатным святаром, але і арганізатарам, знаўцам гісторыі, архітэктуры, літаратуры, мастацтва, святыня з кожным годам прыгажэе як унутры, так і звонку.

Трэба адзначыць, што касцёл Яна Хрысціцеля ў Камаях – адзін з самых старых у Беларусі: ён пабудаваны ў 1603-1606 гадах. Касцёл дзейнічаў нават у гады ваяўнічага атэізму. З храмам у Камаях звязаны лёс шмат якіх знакамітых людзей, сярод каторых мастак Альфрэд Ромер, музыкант Браніслаў Руткоўскі і, безумоўна, паэт Казімір Сваяк (ксёндз Канстанцін Стаповіч).



# Птушыны вырай у Павяцці

**Многім нашым чытачам, напэўна, цікава ведаць пра штодзённы побыт святара. Чым ён жыве? Пра што думае? Як адпачывае? Даведаўшыся пра незвычайнае хобі кс. Леаніда Мозгеля, накіроўваемся да яго ў парафію, у Павяцце, Мёрскага раёна Віцебскай вобласці. Апрача душпастырскай дзейнасці, святар мае яшчэ адзін занятак для душы – гадуе галубоў.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



З першага позірку на касцёл становіцца зразумела, што парафія нестарая. Архітэктурныя формы будынка падказваюць, што ўзведзены ён адносна нядаўна. Абходзім святыню вакол, каб зайсці ў плябанію, якая месціцца проста ў касцёле. Гэта яшчэ адзін доказ "маладога ўзросту" культавага збудавання. Даўней касцёлы ставілі пераважна асобна ад плябаній. На парозе нас прыязнай усмешкай вітае кс. Леанід.

## Зацікаўленасць ад прадзеда

"Вітаю вас, дарагія! Я ўжо і курыцу паставіў у духоўку. Чакаў вас і рыхтаваўся, – усклікае святар. – А пакуль маем час, хадземце, пакажу вам галубятні".

Зусім недалёка, за некалькі метраў ад плябаніі, стаяць два маленькія домікі з драўлянымі сценамі і маленькімі вокнамі ў іх. "Даўно захапіліся гадоўляй галубоў?" – пытаюся. "І так, і не, – кажа кс. Леанід. – У святарскім жыцці пачаў займацца гэтым нядаўна, год таму. Але вопыт у мяне багаты, таму што ў дзяцінстве гадаваў галубоў. Тата дазваляў мне мець толькі двух. І дзікіх прыручаў. Памятаю, ідучы са школы ў падлеткавым узросце, падкормліваў аднаго голуба па дарозе. То пячэнне яму дам, то булку пакрышу. Дык ён мяне доўгі час сустракаў са школы. Галубы не толькі прыгожыя, але і разумныя птушкі. Але само замілаванне галубамі ў мяне, пэўна, у крыві, бо мой прадзед гэтым займаўся. Бабуля казала, што ён быў даволі заможны і мог сабе дазволіць такі занятак.

Кс. Леанід адчыняе першую галубятню і запрашае зайсці ўнутр. Мне даводзіцца сагнуцца, а вось сам пробашч лёгка змяшчаецца ў птушыным доміку. Унутры яшчэ пахне свежым дрэвам. Відавочна, галубятня збудаваная нядаўна. На сценах замацаваны палічкі і седалы, на якіх варкуюць галубы і галубкі розных колераў. Вельмі шмат белых. Заўважаю, што некаторыя адрозніваюцца сваім выглядам.

"У мяне тут розныя пароды. Ёсць мікалаеўскія, статныя, грывуны, а таксама паўліны. Вось бачыце, яны маюць такі прыгожы хвост". Ксёндз бярэ ў рукі галубку і падносіць, каб паказаць нам. Бачна, што птушка крыху знерваваная і спрабуе збегчы. "Гэта яна вас проста не бачыла і крыху баіцца", – заўважае гаспадар. Сярод мікалаеўскіх ёсць матылькі. Заўважыўшы неразуменне ў маіх вачах, ксёндз Леанід тлумачыць: матылькамі называюцца таму, што ў палёце могуць завісаць на адным месцы. Гэта так прыгожа! Выглядаюць як вялікія матылькі.

– І колькі ў Вас усяго гэтых прыгожых стварэнняў?

– На дадзены момант сорак. І яшчэ два мясныя. Так, так, не здзіўляйцеся. Галубінае мяса лічыцца далікатэсам, і добрае для тых, хто хварэе на страўнікавыя хваробы. З мяснога голуба можна атрымаць прыблізна 700 грам мяса.

## Некалькі парадаў для пачаткоўцаў

**– Ці просяць людзі на вяселле пазычыць птушак? Цяпер жа гэта модна.**

– Просяць, але пераважна з Мёраў. Дык я баюся даваць. Да Мёраў далекавата, яны могуць не вярнуцца дамоў. Гэта паштовыя галубы могуць ляцець на сотню кіламетраў, і то іх трэба трэніраваць, каб арыентаваліся ў мясцовасці. А ў мяне няма часу на гэта.

**– Ці патрэбны нейкі асаблівы догляд галубоў?**

– Ведаеце, я шмат чытаў на гэтую тэму. Нямецкія спецыялісты нават раяць кожны раз пасля піцця вады праводзіць дэзынфекцыю посуду. Ставяць кандыцыянеры і ўсяляк лечаць. У мяне ж адзін рэцэпт на хваробы: умовы жыцця птушак павінны быць максімальна натуральнымі. У мяне галубятні ўцепленыя звычайнай дошкай. У ваду дадаю соль, воцат, а часам і марганцоўку. Толькі не зашмат, бо потым крылы сабе пафарбуюць. Яны ж вой як любяць купацца! Ну і каб не ўбіўся пухапераед, трэба карміць іх добра, падтрымліваць імунітэт. Я даю ім ячмень, пшаніцу, проса, рапс, семкі сланечніка. І, канешне, мінеральныя дабаўкі: пясок, крэйду, соль.



## Галубіная вернасць

З гэтымі словамі пераходзім у другую галубятню, дзе домік большы памерамі. "Тут у мяне раддом", – жартуе кс. Леанід. – Галубы тут спарваюцца, сядзяць на яйках. Цікава, што яны даволі верныя адно аднаму, хоць і бываюць здрады. Але тады ўжо самкі адно адну на дых не пераносяць, калі якая звядзе самца. На яйках таксама сядзяць па чарзе. Я назіраў, дык выходзіць, што самец сядзіць з 11 да 16 гадзін, даючы магчымасць самцы адпачнуць. А потым сядзіць самка. Вось глядзіце, у гэтым гняздзе адно яйка ляжыць". Ксёндз паказвае на палічку з маленькім гняздом.

– Гэта сумная гісторыя. Голуба схапіў каршун, і галубка засталася адна. Яна ўжо не будзе даседжваць яйка.

– Дык якая ж асноўная прычына вашага захаплення? – пытаюся ў святара.

– Я люблю прыгажосць. Паглядзіце, гэтыя птушкі такія нявінныя. Глядзіш на іх – і сэрца радуецца. Акрамя таго, хачу гэтым самым нагадаць людзям пра беражлівыя адносіны да прыроды. Папа Францішак неаднойчы пра гэта нагадваў і заклікаў. Прырода – расліны і жывёлы – гэта Божы дар. А чалавек мае ўладу панаваць над усім гэтым. Толькі рабіць гэта павінен з любоўю і адказна. Зараз выпусцім іх, хай палётаюць над касцёлам."

## Прыгажосць у небе

Кс. Леанід адчыняе дзверцы галубятні і стукае па сценках. "Яны не прывыклі лятаць так рана. Такой парой можа каршун паблізу ў дрэвах сядзець. Таму я іх пераважна вечарам выпускаю."

Праз некалькі хвілін галубы шыбуюць у неба. Частка сядае на даху касцёла, некаторыя – на электрычных правадах, а некаторыя, нібы матылькі, завісаюць над сваёй хаткай. Пачынаецца фотасесія. Пакуль наш фотакарэспандэнт Марына шукае ракурс, каб злавіць у аб'ектыве прыгожых птушак, пытаюся ў кс. Леаніда: "Вы стварылі такі непаўторны птушыны вырай у парафіі. Ці не замінае гэты занятак у асноўнай Вашай працы?"

"Ды не," – адказвае святар. – Раз толькі было, калі рыхтаваў дзяцей да Першай Святой Камуніі. Якраз была споведзь. Сяджу, спавядаю – і раптам дзеці лятуць. "Ксёндз Леанід! – крычаць. – Каршун галубку схапіў!" Ну, расстройства, канешне, шкада жывёлінку. Але ў той дзень мае гадаванцы аднекуль новага голуба прывялі. І такога не дзікага. Можа, заблукаў, можа, якраз вясельны чый не вярнуўся дамоў".

Робім яшчэ некалькі кадраў і ідзём у касцёл. Кс. Леанід распавядае пра парафію.

## Першы касцёл першага біскупа

"Супольнасць у Павяцці мае 15 гадоў і налічвае 350 чалавек. У нядзелю на Імшу прыходзіць дзесьці 70 парафіян. Сярэдні ўзрост вернікаў – 40 гадоў. Таму ў мяне бываць і хросты, і шлюбы. А вось пахаванняў толькі 2-3 на год. Сам касцёл будаваўся як магазін. Гэта быў праект Белкаапсаюза, але ў часы перабудовы праца замарозілася і стала. Аб'ект перадалі парафіі. І добра зрабілі, бо што з ім сталася б? Развалiўся б з часам. А мы тут усё дабудавалі. Найбольш працы тут праводзілася, калі пробашчам быў кс. Антоній Лось. Толькі ён тут не жыў, а прыязджаў з суседняй Друі. Я першы пробашч, які заканчваў плябанію і жыве тут".



Заходзім у касцёл, які ўнутры мае выгляд акружнасці. Недалёка ад алтара стаіць фігура Маці Божай Фацімскай. Ксёндз Леанід распавядае пра спецыяльныя Фацімскія набажэнствы 13 числа кожнага месяца ад мая аж да кастрычніка. Аказваецца, касцёл у Павяцці знамянальны сам па сабе. Яго першым асвяціў у новастворанай Віцебскай дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін.

З касцёла трапляем у катэхетычны зал. "На ўрокі рэлігіі прыходзіць сем дзяцей. Я сам праводжу заняткі. Хацеў бы таксама адзначыць руплівасць нашых парафіян. Усё, што вы бачыце, – гэта іх грошы, іх праца і іх заслуга. Асабліва я ім удзячны, што адгукнуліся на маю прапанову і сабралі сродкі на браму і касцельны мур. Дзякуй таксама нашаму калгасу за дапамогу".

Пасля экскурсіі па плябаніі ксёндз Леанід запрашае нас у сталовую, дзе частуе абяцаным курыцай. Інтэр'ер святарскага жылля нагадвае пра яшчэ адно захапленне святара: гісторыю і экуменізм. На сценах вісяць старыя абразы і рыцарскі меч і шчыт, на якім выгравіравана: "Бог, Гонар, Айчына". Але гэтая тэма, напэўна, не менш цікавая чым птушкаводства, ужо стане прадметам нашай сустрэчы для наступнага рэпартажу.

# Ці дапамаглі б Вы бежанцам з Сірыі?

**Папа Францішак заклікаў каталіцкія парафіі Еўропы прыняць па адной сям'і бежанцаў у знак салідарнасці. А калі б уцекачы з Сірыі трапілі ў Беларусь, ці дапамаглі б Вы ім?**

*Ірына Грэйць*



**Клерык Павел Шэмет:**

– Так. Я дапамог бы ўцекачам. Тым больш калі паглядзець, як і ў якіх умовах жывуць людзі ў Сірыі. Асабліва тыя, якія вызнаюць веру ў Хрыста. Людзі пакідаюць родную зямлю ў пошуках лепшага і стабільнага жыцця або, як бывае, адракаючыся ад веры. У Беларусі ж не забаронена вызнаваць тую веру, якую мы хочам. Нам цяжка зразумець такіх людзей, але да іх мы павінны ставіцца з салідарнасцю і з адкрытым сэрцам. Вельмі многаму ў гэтым накірунку нас вучыць Святое Пісанне, напрыклад, у прытчы пра добрага Самараніна.



**Вольга Маслоўская:**

– Напэўна, адказаць на гэтае пытанне ў глыбіні душы хацелася б наступным чынам: "Так, я згодна прыняць бежанцаў у свой дом". Але рэчаіснасць мне гаворыць іншае... На жаль, я не гатовая да такога. Напэўна, таму, што мне не хапае адвагі і даверу да зусім чужога чалавека і сапраўднай любові. Адразу ўсплывае думка пра тое, што кватэра невялікая, сама знаходжуся далёка ад дому, маці адна і не хочацца ёй дастаўляць клопату. Я толькі з упэўненасцю магу сказаць, што мая сям'я магла б дапамагчы бежанцам ежай, адзеннем і іншымі неабходнымі рэчамі.



**Міхаіл Сяргеенка:**

– А хто мае дастатак на свеце, але, бачачы брата свайго ў нястачы, закрывае ад яго сэрца сваё, – як застаецца ў тым любоў Божая? (1-е Пасланне Яна 3,17).

Сёння, у 21-ым стагоддзі, поўным катаклізмаў і катастроф, гэтыя біблійскія словы гучаць асабліва актуальна для кожнага хрысціяніна. Чарговым выклікам для нашага сумлення стала сітуацыя вакол патоку бежанцаў з захвачаных вайной краін. Людзі бягуць ад вайны, ад голаду, ад смерці і гвалту, бягуць цэлымі сем'ямі з маленькімі дзецьмі на руках. Бягуць з надзеяй знайсці мір і спакой.

Але хто іх чакае? Ці гатовыя мы ўбачыць у нашай краіне натоўп абяздоленых людзей, ці гатовыя мы адкрыць дзверы свайго дома? Мне здаецца, што важна ўбачыць Чалавека ў чалавеку. Важна ўбачыць не прадстаўніка пэўнай нацыі і рэлігіі, а стварэнне Божае, якое патрабуе дапамогі. Калі мы баімся патоку іншаверцаў, то чаго ў такім выпадку каштуе вера ў Хрыста?

Патрэбна перастаць баяцца! Хрысціянства – не вера баязліўцаў. Гэта вера адважных людзей у Хрысце. І калі народ Сірыі патрабуе дапамогі, то мы, як і кожная еўрапейская краіна, павінны дапамагчы ім. Хрыстос жыве ў кожным чалавеку. Ён праліў Сваю Святую Кроў за кожнага, без выключэння. І для нас самае галоўнае – убачыць Яго ў сваім бліжнім і дапамагчы.



**Павел Слізевіч:**

– Калі б у мяне была такая магчымасць, я б, хутчэй за ўсё, не прыняў бы ўцекачоў. Я не надта даверлівы да людзей і пакуль што маю слабы давер да Бога. У мяне былі б сумневы, ці добрыя гэта людзі, ці не сядуць яны мне на шыю, ці не пачнуць абкрадаць. Тым больш гэта перамяніла б маё нібыта ўтульнае жыццё. А так не хочацца вылазіць з-пад цёплай коўдры ўяўнага кантролю над сваім жыццём. Хаця зразумела, што ўсё залежыць толькі ад Бога. Але пакуль мне лепш, на жаль, жыць у зоне камфорту, і я баюся даверыцца Госпаду.



**Юрый Краўчык:**

– Безумоўна, пытанне дапамогі ўцекачам у сённяшняй сітуацыі ў Сірыі застаецца нумарам адзін у гуманітарнай сферы. І абавязак кожнага верніка – не заставацца недзе збоку, а нейкім чынам аказаць дапамогу гэтым людзям. Што адносна прыняцця сям'і ў кожную парафію, то, на маю думку, гэта нават неабходна зрабіць, бо Беларусь такая самая краіна Еўропы, як і Германія, Аўстрыя або Францыя. Іншае пытанне, што самі бежанцы з Сірыі не маюць такога жадання. Бо ў краінах Еўрасаюза зусім іншыя фінансавыя адносіны. Але, тым не менш, я ўсіх рады бачыць на нашай роднай зямлі, калі каму патрэбна дапамога!



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Ці дапамаглі б Вы бежанцам з Сірыі?**

- Цалкам салідарны з Папам і дапамог бы бежанцам – 42
- Мая парафія небагатая, але, думаю, мы б памаглі – 46
- Нам самім патрэбная дапамога, таму мой адказ - не – 11
- Сярод бежанцаў могуць быць тэрарысты. Таму - не; – 27
- Я даю на ахвяру ў касцёл і лічу гэтага дастаткова. Таму – не – 0
- Іншы варыянт (у каментарыях) – 10

**Усяго: 136 апытаных**



## Абрад асвячэння жывёлы адбыўся ў Удзеле

**У дзень успаміну святога Францішка, які адзначаецца 4 кастрычніка, у Удзеле прайшоў фэст.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Па словах пробашча парафіі айца Яраслава Банасяка, абрад асвячэння жывёл праводзіўся ўпершыню ў Віцебскай дыяцэзіі. Вернікі пра яго амаль не ведаюць, таму на першы раз жывёл было мала. Але нам удалося паназіраць, як святар асвяціў каня.

Успамін святога Францішка адзначаецца 4 кастрычніка ў памяць таго, што ў гэты дзень у 1226 годзе святы Францішак Асізскі памёр. Святы вызначаўся любоўю да ўсяго жывога, кожную жывую істоту ён лічыў Божым стварэннем. Гэта і стала прычынай таго, што на Міжнародным кангрэсе прыхільнікаў руху ў абарону прыроды, які праходзіў у Італіі ў 1931 годзе, было вырашана адзначаць Сусветны дзень абароны жывёл менавіта 4 кастрычніка.

Францішак Асізскі заснаваў у свой час манаскі ордэн, які называецца па яго імені францішканскім. Прадстаўнікі гэтага ордэна айцы Яраслаў, Вальдэмар і Ян ужо шмат гадоў працуюць у Удзеле. Дзякуючы іх намаганням і ахвяраванням вернікаў удалося адрадзіць касцёл, які доўгі час стаяў закінуты, зрабіць прыгожай прыкасцельную тэрыторыю. Пры касцёле стаіць помнік ненароджаным дзецям, дзейнічае ўнікальная батлейка, тут захоўваюцца старадрукі. Усяго і не пералічыш...

І вось у гэтым годзе манахі-францішкане вырашылі адрадзіць у Беларусі абрад асвячэння жывёлаў. Гэты абрад праводзіцца ўжо ў многіх краінах свету, у тым ліку ў суседняй Польшчы. Спадзяёмся, што ён стане і ў нас добрай традыцыяй.



Каталіцкі ВЕСНІК №10(55) кастрычнік 2015 г.

# Ад усяго сэрца

**Паважаная рэдакцыя!**
**Напрыканцы кастрычніка свае імяніны адзначае айцец Тадэвуш Кавальскі, які працуе ў Віцебскай дыяцэзіі.**

Мы, парафіяне верхнядзвінскага касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, хацелі б выказаць святару сваю вялікую ўдзячнасць за працу на нашай зямлі.

Айцец Тадэвуш служыў у Верхнядзвінскай парафіі шэсць гадоў. А ўвесь яго святарскі шлях налічвае больш за чвэрць стагоддзя, значную частку якога ён аддаў Беларусі. Айцец нёс службу ў Маладзечне, дзе будаваў касцёл, у Параф'янаве, дзе адраджаў веру, у Верхнядзвінску, дзе шмат зрабіў дзеля яе ўмацавання. Ніводнае месца яго службы не было лёгкім, бо патрабавала вялікіх сіл у справе аднаўлення парушанай гадамі атэізму духоўнасці. Але айцец Тадэвуш заўсёды гаварыў, што святарскі шлях тым больш каштоўны і цікавы, чым больш цяжкасцей удаецца пераадолець. І годна выконваў сваю місію – несці веру туды, дзе яна найбольш патрэбная.

На нашай зямлі айцец Тадэвуш многа зрабіў для ўмацавання святыняў: яго стараннямі адрамантаваны дах касцёла, наладжана ацяпленне, праведзены камунікацыі. Пабудаваны малітоўныя дамы ў Каханавічах і Сар'і.

Новы змест набыла духоўная праца: праводзілася вялікая работа з дзецьмі і моладдзю, ладзіліся Калядныя сустрэчы, "Канікулы з Богам", арганізавана суполка "Легіён Марыі". А колькі людзей адмовілася ад ужывання спіртнога і нават выбралася з цемры алкагольнай залежнасці праз дзейнасць гуртка цвярозасці пры касцёле!

За плённую службу святар заслугоўвае самых высокіх слоў удзячнасці. Але ў тым і адметнасць айца Тадэвуша, што ён працуе многа, але ціха і непрыкметна, у яго быццам усё само спорыцца. Мы ніколі не чулі ад святара павышанага голасу, ушчуванняў, патрабаванняў. Ён спакойна гаварыў пра тое, над чым трэба працаваць, і браўся за справу, аддаючыся волі Божай. І заўсёды знаходзіў дапамогу ў любой справе. У самых складаных абставінах кіраваўся любоўю і даверам да сваіх парафіян – і яны плацілі тым жа. Пробашч здолеў заахвоціць сваімі стваральнымі праектамі па духоўным выхаванні і мясцовую ўладу, з якой у касцёла цяпер добрыя ўзаемаадносіны.

Спакойны, высакародны, інтэлігентны, айцец Тадэвуш стаў для нас прыкладам шчырай веры, адданай малітвы, імкнення да святасці.

Два месяцы назад а. Тадэвуш Кавальскі быў пераведзены на іншае месца службы. З яго адыходам наш касцёл змяніў статус: раней ён належаў да ордэна Братоў Меншых Капуцынаў, а зараз аддадзены ў Віцебскую дыяцэзію. З гэтай нагоды хочам сардэчна падзякаваць усім капуцынам, якія неслі службу на нашай зямлі і многа зрабілі дзеля адраджэння веры. Спадзяёмся, што іх справа будзе працягвацца гэтак жа плённа з нашым новым пробашчам.

Айцу Тадэвушу з нагоды імянінаў жадаем моцы духу, сіл і здароўя, новых здабыткаў на святарскім шляху. Будзем прасіць у Бога патрэбных ласкаў для Вас, а ў Найсвяцейшай Панны Марыі – заступніцтва і апекі.

**Заўсёды памятаем і любім Вас, шаноўны айцец Тадэвуш, і нагадваем, што Верхнядзвінск – гэта і Ваша зямля! Прыязджайце!**

*З павагай і падзякай, парафіяне верхнядзвінскага касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі*

# Памятаем, віншуем, жадаем

**Дваццаць шэсць гадоў у нашай святыні Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве гаспадарылі камуністы, ператварыўшы яе ў склад, бо цесна стала ў тых складах, якія меліся на тэрыторыі спірт- і віназавода.**

У пачатку кастрычніка 1991 года да нас на працу прыехаў айцец-капуцын Тадэвуш Кавальскі. У часе першай святой Імшы глядзела я на яго і думала: "Зусім малады. Што ён будзе рабіць з нашымі скалечанымі душамі ў нашым скалечаным касцёле? Ці дасць якой рады?"

Праз некалькі дзён, 28 кастрычніка, з Гродзеншчыны, дзе раней працаваў айцец Тадэвуш, прыехалі парафіяне, каб павіншаваць яго з імянінамі. У вачах дарослых і дзяцей мы ўбачылі шчырыя слёзы. Яны вельмі добра ведалі, каго страцілі...

З першых дзён ксёндз Тадэвуш (па нацыянальнасці паляк) стаў для нас сведкам сваёй бязмежнай Веры. Сапраўды вузкай сцяжынкай ішоў за Хрыстом. У халоднае надвор'е ездзіў на старэнькім "жыгулёнку", а ў цёплае – на ржавым матацыкле "Мінск". Кожную хвіліну памятаў, што сімвалізуюць тры вузельчыкі, якія насіў на поясе. Вельмі мудры, культурны, сціплы, разважлівы Святар у нашых вачах ні словам, ні паводзінамі не здрадзіў Божай Справе. Ніякім чынам не прыніжаў нас, не вымагаў, не скардзіўся, а сваім прыкладам, мэтанакіраванасцю і цярпеннем удыхнуў у нашы душы Веру, Любоў, Міласэрнасць.

Каб лепш разумелі дзеці і моладзь, вельмі хутка навучыўся і размаўляць, і маліцца на беларускай мове, шанаваў гісторыю касцёла, не нішчыў тое, што было зроблена да яго. Даражыў хлапчукамі-міністрантамі, як мог, заахвочваў іх служыць. Ён быў добры Пастыр, а мы з усёй сілы стараліся быць добрымі парафіянамі. Любілі, шанавалі, паважалі, дапамагалі, каб як мага менш хваляваўся наш ойчанька. Так ласкава мы ўсе яго называлі. Нам хапала зазірнуць яму ў вочы, каб зразумець, як патрэбна падтрымка ў яго задуме. А задумваў ён, здавалася, немагчымае. І выконваў! З гонарам насіў сваё прызванне служыць Верай і Праўдай, а не валадарыць, і быў гонарам нашай вялікай парафіі. Ён патрэбны быў нам як хлеб і соль, як сонца і паветра, як Божая Ласка. Па сённяшні дзень чуем голас, які надзяляў нас супакоем, бачым вочы, з якіх струменіліся два сонечныя праменьчыкі.

Катастрафічна не хапала будматэрыялаў, не было дзе купіць, не хапала і грошай. Ішлі з паклонам да начальнікаў, нядаўніх камуністаў. Прасілі – атрымлівалі. Вялікая ўдзячнасць ім за гэта. Што нельга было раздабыць тут, тое наш любы ў Хрысце пробашч прывозіў з Польшчы.

З кожным днём прыгажэлі наш Дом Божы і тэрыторыя вакол яго. Званы будзілі наваколле, склікаючы людзей аддаць пашану Богу. Пачалі прыязджаць з Польшчы госці: клерыкі, ксяндзы. Маладыя айцы-капуцыны адпраўлялі сваю прыміцыйную святую Імшу. У нас для ўсіх хапала месца, прыгожых кветак, цёплых слоў...

Па-сапраўднаму час быў цудоўны. Ёсць што ўспомніць, расказаць унукам. Дзякуй Богу, што ў сэрцах нашых дзяцей засталася вельмі прыгожая памяць пра шаноўнага айца Тадэвуша і пра яго самаадданую працу на ніве Божай.

***Леакадзія Малей***, *в. Сітцы*

*Шаноўны айцец Тадэвуш!*
*Калісьці ў Параф'янаве*
*Вы будавалі нанава*
*Усё тое, што разбурана было.*

*І працай сваёй дбайнаю,*
*І верай незгасальнаю*
*У душах запалілі Вы святло.*

*Агеньчык Вашай святасці*
*Пры ўсёй нашай занятасці*
*Не гасне, а палае зноў і зноў,*
*Бо Вы сваёй праўдзівасцю,*
*І дабрынёй, і шчырасцю*
*Вучылі нас, што Бог –*
*гэта Любоў.*

*Малітвамі супольнымі*
*І справамі касцёльнымі*
*Змаглі старых і моладзь*
*згуртаваць.*
*Вы слаўны след пакінулі.*
*Дазвольце ж з імянінамі*
*Вас сёння ад душы павіншаваць.*

*Здароўя, шчасця, радасці!*
*Да ста гадоў без старасці*
*І без турботаў слаўна вам*
*пражыць!*
*Апекі Маці Божае!*
*Служэнне Ваша гожае!*
*Мы ім заўсёды*
*будзем даражыць.*

*Хай мары ўсе збываюцца,*
*Хай планы ўсе здзяйсняюцца,*
*Хай бласлаўляе Бог*
*служэння час!*
*Вы сталі нашым гонарам,*
*І мы заўжды з пакораю*
*Аддана, шчыра молімся за Вас.*

*З вялікай павагай і ўдзячнасцю,*
***Марыя Ючкавіч***,
*в. Сітцы*



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Каляндар на лістапад



**Лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, мы павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але можам сустрэцца з імі ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.**

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**

У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або блаславёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце. Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя.

У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую святыню Пантэон, туды былі перанесены шматлікія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак быў асвечаны як храм Маці Божай Пакутнікаў. З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Гэтак жа, як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

**2 лістапада – успамін усіх памерлых.**

У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: трэба быць пасля споведзі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.

**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**

Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі хабіт, а пазней – пасвячэнні пераддыяканату і дыяканату. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскія пасвячэнні і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Дзякуючы сваёй старannасці быў празваны "душахватам". Настаяцелі давяралі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617 годзе атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара.

12 лістапада 1623 г. быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі ўніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананізацыю – Папа Пій XI у 1867 г.

Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 г. у Белай Падляскай, былі перавезены ў Вену, а потым – у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вострабрамскай.**

У кожнай хрысціянскай краіне ёсць вобраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, якая ўшаноўваецца католікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз Божай Маці, які знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэта Папы Пія XI быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў.

Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вострабрамскай тысячы пілігрымаў. Яе абраз ёсць у шматлікіх беларускіх храмах, як каталіцкіх, так і праваслаўных.

**21 лістапада – Ахвяраванне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**23 лістапада – урачыстасць Хрыста Валадара Сусвету.**

Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня 1925 года абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У гэтым становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцей і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда аб тым, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

**29 лістапада – I-ая нядзеля Адвэнту.**

Гэта час радаснага чакання Божага Нараджэння, таму названы літургічны перыяд па сваім характары адрозніваецца ад Вялікага Посту. Адвэнт доўжыцца амаль 4 тыдні і заканчваецца 24 снежня ў Вігілію Божага Нараджэння.

**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.**

Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць «Першазваным».

30 лістапада 60 г. у грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары «Х» – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэліквіі трапілі ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, аточаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезена ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас. Свята св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., «андрэйкі»). Святы з'яўляецца апекуном рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей. Яго заступніцтва просяць ад артрыту і сутаргаў.

*Падрыхтавала*
***Марына Ткач***

## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

- **5 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Барок** (Расоны); імяніны адзначае **кс. Славамір Самковіч** (агр. Пагошча, Браслаўскі раён);
- **6 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Півавар** (Лёзна) і **кс. Андрэй Бочар MS** (Далёкія);
- **10 лістапада** – імяніны адзначае **кс. Леанід Мозгель** (Павяцце);
- **12 лістапада** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Генадзь Дабрук** (Фінляндыя), **кс. Валерый Орсік** (Орша), **кс. Алег Півавар** (Лёзна), **кс. Славамір Самковіч** (в. Пагошча, Браслаўскі раён); імяніны адзначае **а. Віталь Сапега OP** (Віцебск);
- **13 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** (Варапаева) і **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** (Браслаў);
- **14 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** (Докшыцы);
- **17 лістапада** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Яцэк Хутман** (Камаі);
- **19 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Ляўкоў** (Дрысвяты);
- **20 лістапада** – гадавіну біскупскіх пасвячэнняў адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;
- **22 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **а. Павел Мажэйка OP** (Віцебск);
- **30 лістапада** – імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Аніскевіч** (Лепель), **кс. Андрэй Бочар MS** (Далёкія), **кс. Андрэй Бульчак** (Паставы), **кс. Андрэй Возняк SCJ** (Паставы), **кс. Андрэй Кулік** (Дзеркаўшчына), **кс. Яўген Міхайлаў** (Глыбокае) і **а. Анджэй Юхневіч OMI** (Шуміліна).

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў.**

*Падрыхтавала*
***Марына Ткач***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Яніна Вяршэль** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Кандрат Леановіч** *(Віцебск)*, **парафіяне з Задарожжа**, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Вольга Баранава** *(Браслаў)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **І.М. Канчыц** *(Гомель)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвяраваўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Ці прыме Сінод біскупаў новаўвядзенні ў пытаннях сям'і?

**Год назад у Ватыкане прайшла ІІІ Надзвычайная сесія Сінода біскупаў, прысвечаная пытанням сям'і і сужэнства.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Многія колы ў той час чакалі ад яе сенсацыі, пэўных зменаў у стаўленні Каталіцкага Касцёла да інстытуту сям'і, як, напрыклад, дазволу на развод ці згоды на аднаполыя шлюбы. Аднак сенсацыі не адбылося. У выніковым пасланні Сінода біскупаў была звернутая ўвага на складаную рэчаіснасць, у якой жывуць сем'і, на выклікі і выпрабаванні, але падкрэсленая важнасць і неабходнасць захавання сям'і такой, якой яна ёсць у Божай задуме.

На самай справе мэта падобных сустрэчаў не прыняць сенсацыйныя новаўвядзенні, не абясціць чорнае белым ва ўгоду свецкай кан'юнктуры, а знайсці спосаб, як выправіць сітуацыю і дапамагчы чалавеку вярнуцца да праўды.

Пасля завяршэння надзвычайнай сесіі год назад праца над дадзенай тэмай працягнулася, і 4 кастрычніка 2015 г. у Ватыкане адкрылася XIV Генеральная асамблея Сінода біскупаў на тэму "Пакліканне і місія сям'і ў Касцёле і сучасным свеце". Папа Францішак з гэтай нагоды адзначыў, што сучасны чалавек перажывае драму глыбокай адзіноты, аднак Бог не стварыў чалавека для жыцця ў смутку і адзіноце. Мы створаныя для шчасця ў сужэнстве паміж мужчынам і жанчынай, каб любіць і быць любімым, і каб бачыць сваю плённую любоў у дзецях.

Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, адкрываючы першую кангрэгацыю Сінода, Святы Айцец нагадаў, што Сінод не з'яўляецца кангрэсам, парламентам ці сенатам, праца Сінода – гэта сведчанне калегіяльнасці ў Касцёле. Сінод Біскупаў – гэта абароненая прастора, у якой праяўляецца дзейнасць Святога Духа.

> **"Сінод не з'яўляецца кангрэсам, парламентам ці сенатам, праца Сінода – гэта сведчанне калегіяльнасці ў Касцёле"**

Перад удзельнікамі Сінода стаіць задача больш адказная, чым год назад. Праца павінна завяршыцца больш канкрэтнымі адказамі і рэакцыямі на выклікі сучаснасці. Перспектыва сінадальнай асамблеі заключаецца ў тым, каб, адштурхоўваючыся ад каталіцкай дактрыны, знайсці магчымасці для клопату і падтрымкі сям'і.

## Што знішчае сем'і?

Удзельнікі Сінода на працягу двух тыдняў працы звярнулі сваю ўвагу на шырокі спектр праблемаў і выклікаў, што паўсталі перад хрысціянскай сям'ёй у сучасным свеце. У ходзе абмеркаванняў было адзначана паслабленне ўнутраных сямейных адносін, што адлюстроўваецца ў фізічнай або духоўнай адсутнасці мужоў і бацькоў у сямейным асяроддзі, якія не выконваюць сваіх бацькоўскіх функцый у адносінах да дзяцей.

Гаворка ішла пра неабходнасць абароны годнасці дзіцяці і правоў яго біялагічных бацькоў, а таксама пра прысвячэнне большай увагі душпастырскаму клопату пра "дзяцей вуліцы", дапамагаючы бедным сем'ям у адукацыі апошніх.

У межах тэмы пракрэацыі ўвага была звернута на небяспеку абартыўных сродкаў і метадаў штучнага апладнення. У гэтай галіне пануе шмат дэзынфармацыі, і важна, каб Касцёл стаў тым, хто дасць кваліфікаваную ацэнку гэтым з'явам – этычную і маральную.

На Сінодзе ішла гаворка таксама пра драму прымусовых шлюбаў, дзе часта розніца паміж узростам жаніха і нявесты складае пакаленне і больш, і дзе адзін з сужэнцаў непаўнагадовы. Айцы Сінода згадалі таксама пажылых асобаў і іх фундаментальны ўклад у сямейнае і грамадскае жыццё. Грамадства не можа ігнараваць іх і ўспрымаць як непатрэбны цяжар.

Новай рэаліяй у наш час стала ідэалогія гендэрызму, якая імкнецца знішчыць сужэнства і сям'ю шляхам садзейнічання ліквідацыі гендэрных (палавых) адрозненняў. У прыватнасці, яна накіравана на дзяцей, у большасці выпадкаў без згоды бацькоў, і мае на мэце змяніць канцэпцыю сексуальнасці. Да гэтага варта дадаць сексуалізацыю маладых людзей. Было адзначана, што гендэрная ідэалогія ўсё больш адлюстроўваецца ў навучальных праграмах і заканадаўстве. Усе ўдзельнікі выказалі пераканананасць у неабходнасці выразнага сігналу з боку Сінода пра пагрозу гендэрызму для сям'і, гаворыцца ў паведамленні Беларускай службы Ватыканскага радыё.

Калі мы паглядзім на сітуацыю ў нашай краіне ў кантэксце ўзнятых на Сінодзе тэмаў, то з сумам можам канстатаваць, што беларуская сям'я таксама знаходзіцца ў трагічным стане. Разводы, сужэнская нявернасць, аборты, ужыванне кантрацэпцыі, фармальнае выхаванне дзяцей, ранні пачатак палавога жыцця, адсутнасць годнага прыкладу для моладзі караняцца ў няведанні ці неразуменні хрысціянскага вучэння, а ў большасці выпадкаў – у нежаданні ведаць, разумець і прымаць Божую праўду адносна сямейнага жыцця.

## Як выправіць сітуацыю?

Разам з вызначэннем праблемаў сінадальныя айцы рабілі таксама спробы акрэсліць шляхі выхаду з цяжкай сітуацыі. Вялікая колькасць выступоўцаў казала пра "сямейную духоўнасць" і веру ў штодзённым сямейным жыцці. Падкрэслівалася важнае значэнне малітвы, Божага слова, Эўхарыстыі і споведзі. Гаворка ішла таксама пра адказнае бацькоўства, закраналіся пытанні плоднасці сужэнства, падкрэслівалася фундаментальная роля бацькі ў сям'і, сведчанне Божай любові ў сямейным асяроддзі, абмяркоўваліся адносіны паміж сужэнцамі і пастырамі, працай і грамадствам.

Падсумаваннем працы Сінода стане выніковы дакумент, які будзе перададзены Пантыфіку. У выніковым дакуменце будуць сфармуляваныя канкрэтныя рашэнні і прапановы біскупаў, а Папа павінен вырашыць, якім чынам напрацоўкі Сінода будуць абвешчаныя афіцыйна. Кожнаму ж з нас варта звярнуць сваю ўвагу на ўласную сям'ю і прааналізаваць, як яна выглядае на фоне згаданых праблемаў. Бо, на самай справе, рашэнне хаваецца не ў выніковым дакуменце Сінода, а ў нашай гатоўнасці вызнаць праблему і ў жаданні выправіць яе.



# Што адлюстравана на крыжы Папы?

***"Хвала Хрысту! Падкажыце, калі ласка, што адлюстравана на крыжы, які носіць Папа Францішак?"***
*Тэрэзія*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**



– На крыжы, які носіць Папа Францішак, адлюстраваны Хрыстос у вобразе добрага Пастыра, каля Якога знаходзяцца авечкі – вернікі Касцёла. Над Хрыстом прадстаўлены голуб – сімвал Духа Святога. Такі самы крыж носіць Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

# Ці ёсць на бацьках грэх за сына?

***"Хвала Хрысту! Мой брат – католік, але яго не давялі да Першай Камуніі. Цяпер ён ужо дарослы мужчына. У касцёл не ходзіць і не хоча рыхтавацца да Першай Споведзі і Камуніі. Ці ёсць на бацьках грэх, што ў свой час яны не падрыхтавалі брата да прыняцця сакрамантаў"?***
*Алена*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**



– Кожны чалавек самастойна адказвае за свае грахі. Аднак часам здараецца, што іншыя грашаць па нашай віне. Так адбываецца, напрыклад, калі бацькі не даюць належнае выхаванне, у тым ліку і рэлігійнае, сваім дзецям. Знешне немагчыма ацаніць, наколькі чалавек сам супраціўляўся Божай ласцы, а наколькі ў гэтым яму "дапамаглі" бацькі. Такое пытанне чалавек, якога гэта датычыць, мае задаць сабе сам. Магчыма, што ў перыяд выхавання дзяцей іх бацькі самі яшчэ шукалі дарогу да Бога. Магчыма, яны і самі не мелі багата прыкладаў добрага духоўнага жыцця ў сваім дзяцінстве. Калі чалавек усведамляе, што не без яго віны яго дзеці аддаліліся ад Бога і Божага Касцёла, то ён мае на сумленні цяжкі грэх. Хоць, можа, ён быў здзейснены вельмі даўно, але калі грэх яшчэ не прабачаны або існуе вялікае праўдападабенства гэтага, то пра такую сітуацыю трэба сказаць на споведзі.

# Ці можна абсыпаць труну збожжам?

***"Я сутыкнуўся з тым, што на пахаванні труну абсыпаюць збожжам. Як ставіцца Касцёл да гэтага? І ці можа католік удзельнічаць у такога кшталту абрадах"?***

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP:**



– Гэта адзін са шматлікіх прыкладаў забабонаў, які сягае ажно да язычніцкіх каранёў нашага народа і такім чынам праяўляецца сёння. Сутнасць згаданага звычаю заключаная ў паганскіх вераваннях. Гэты абрад пасяброўску настройваў душу памерлага, бо яна павінна будзе палічыць усё раскіданае зерне і не вернецца ў хату. Часам гэта магло азначаць і яднанне добрых духаў. Тым не менш, кідаючы жмені збожжа на труну, верылі ў добры ўраджай і абарону перад неўрадлівасцю.

Натуральна, вернік не павінен удзельнічаць у такога кшталту паганскіх абрадах.

# "Ці можа католік займацца боксам або прымаць удзел у баях без правіл"?

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP:**



– Аргументам хрысціянства супраць усходніх адзінаборстваў з'яўляецца пэўная ідэалогія, філасофская сістэма, якая хаваецца за такімі відамі спорту. Гэта адмоўна ўплывае на духоўнае жыццё верніка і адкрывае магчымасці для ўздзеяння на яго злога духа.

Афіцыйна Касцёл бокс не забараняе. Што датычыцца аматарскага бокса (не прафесійнага, а тага, дзе няма крывавага "мардабою"), то самая прыгожая якасць, якой вучыць бокс, – гэта мужнасць. Займаючыся названым відам спорту, чалавек павінен з расплюшчанымі вачыма атакаваць свайго саперніка. Гэта дапамагае верніку з "расплюшчанымі вачыма" змагацца з рознымі праблемамі і спакусамі ў сваім жыцці.

У боксе таксама вельмі важны супраціў ударам, якога вельмі часта ў жыцці верніка не хапае, і таму ён лёгка здаецца або ўпадае ў дэпрэсію. Менавіта дзякуючы боксу чалавек атрымлівае імунітэт на "ўдары", што дадае мужнасці. Таму аматарскім боксам займайцеся. Галоўнае, каб гэта не выклікала ў Вас злосць і агрэсію ў адносінах да саперніка.

# Як правільна па-беларуску: *догляд за дзецьмі* ці *догляд дзяцей*?

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

І ў вусным маўленні, і ў пісьмовых тэкстах, у тым ліку і ў сродках масавай інфармацыі, мы часта сустракаем канструкцыі кшталту *"яна знаходзіцца ў водпуску па доглядзе за дзіцём"*, *"яны даглядаюць за старымі"* або *"дзяўчына любіць даглядаць за свойскімі жывёламі, за кветкамі"*. Вельмі часта такія канструкцыі фіксуюцца ў газетных публікацыях, прычым не толькі ў рэгіянальных выданнях, але і ў цэнтральных: *Тэрмін вызначэння інваліднасці І групы ці заключэння УКК аб неабходнасці **догляду за састарэлым** ва ўзросце больш за 80 гадоў можа быць абмежаваным* (Звязда, 23.06.11); *Вольга знаходзіцца ў дэкрэтным водпуску **па доглядзе за дзіцяці** ва ўзросце да трох год* (Веснік Глыбоччыны, 26.11.11); *З 1 студзеня 2012 г. дапамога **па доглядзе за дзіцем-інвалідам** ва ўзросце да 18 гадоў будзе павялічана...* (Звязда, 5.01.12); *Імпарт з Бельгіі сродкаў для **догляду за валасамі** перавысіў 2 мільёны долараў...* (Звязда, 10.01.12); *У многіх выпадках трэба рабіць стаўку на... належны **догляд за** меліярацыйнымі **каналамі...*** (Звязда, 3.11.12); *Уборка ў кватэры, **догляд за хворым**, пакупка прадуктаў і лекаў...* (Веснік Глыбоччыны, 6.12.14).

Падобныя ўжыванні сінтаксічна дублююць адпаведныя рускамоўныя словазлучэнні, напрыклад, *"нужно ухаживать за детьми"*, *"они ухаживают за стариками"* і інш. З пункту гледжання сінтаксічных нормаў беларускай літаратурнай мовы такая будова словазлучэнняў памылковая, увогуле недапушчальная.

Праф. Павел Сцяцко ў сувязі з гэтым заўважае, што "прыназоўнік **за** ў словазлучэннях з дзеясловам (ці аддзеяслоўным назоўнікам) і словаформай творнага склону набывае апошнім часам "агрэсіўнае" памкненне ў недасведчаных у пытаннях мовы аўтараў і выкарыстоўваецца там, дзе яго зусім не павінна быць або мусіць быць ужыты іншы прыназоўнік. Так, аддзеяслоўны назоўнік **догляд (дагляд)** нармавана кіруе родным склонам залежнага слова, і тут не можа быць ніякага прыназоўніка" (Сцяцко П. Культура мовы. – Мінск, – 2002, – с. 91). Дарэчы, "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (ТСБМ) таксама адназначна падае беспрыназоўнікавае спалучэнне: *"Догляд пасеваў. Догляд жывёлы"* (Т. 2, с. 187). Памылковыя ж ужыванні з прыназоўнікам за выклікаhistory ўплывам рускай мовы і, натуральна, няведаннем аўтарамі беларускіх асаблівасцяў будовы словазлучэнняў.

Такім чынам, па-беларуску правільна будзе не *догляд за дзецьмі*, а **догляд дзяцей**; не *даглядаць за жывёлай*, а **даглядаць жывёлу**; не *догляд за раслінамі*, а **догляд раслін**.

# Карманные деньги... Стоит ли их давать ребёнку?



**Я позволю себе привести Вам одну ситуацию, свидетелем которой не так давно была.**

**Находясь на остановке в ожидании общественного транспорта, я могла наблюдать, как мать ругала своего, на мой взгляд, 8-9 летнего сына за покупку, как ей казалось, абсолютно бесполезной игрушки. Она достаточно эмоционально проявляла свое недовольство. Но мне в этой ситуации жаль мальчика, на него больно было смотреть. Он весь сжался, как будто ждал, что его ударят, и не мог вставить в активный монолог матери ни единого слова в свое оправдание. Подобный негативный опыт траты денег надолго, а может, и навсегда останется в памяти ребенка.**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

Согласитесь, порой мы сами способствуем формированию неправильного, а иногда даже чересчур важного, я бы сказала, ценностного отношения к деньгам наших собственных детей.

Важно решить для себя, будете ли Вы ругать своего ребенка за покупку сладостей, каких-либо игрушек, за бесполезную, на ваш взгляд, трату денег или же Вы сможете порадоваться и оценить тот факт, что ваш ребенок освоил такую взрослую вещь, как деньги, и смог самостоятельно купить то, что ему хотелось (а может, ваш ребенок подумал и о вас, купив и Вам конфеты или мороженое, например).

Я, конечно, не оправдываю чрезмерную покупку сладостей или игрушек, все разумно и полезно в меру. Замечания со стороны родителей должны быть, но не категоричные и не слишком эмоциональные.

Для того чтобы конфликтов на тему денег у детей в нашей жизни было как можно меньше, сегодня мы с вами поговорим о карманных деньгах для детей, о том, стоит ли их давать и как правильно это сделать.

Многие родители уверены, что карманные деньги ребенку действительно необходимы. Это позволит ему во взрослой жизни избежать многих ошибок. Ведь для того чтобы научиться распоряжаться деньгами, планировать расходы, тратить и рассчитывать бюджет, нужно этому научить. А как научить, если ребенок никогда не держал в руках деньги?

Другая часть родителей уверена в обратном. Дети и деньги – понятия несовместимые. А зачем ребенку деньги? Им все и так покупают родители; дети не умеют тратить деньги; можно избаловать деньгами или развить такое качество, как жадность; ребенок, у которого всегда есть деньги, больше рискует (у него их могут отобрать или, хуже того, побить).

Вы должны понимать, что карманные деньги – не награда за хорошее поведение и учебу и не плата за помощь по дому. Это один из приемов воспитания, который имеет четкую цель: научить ребенка обращаться с деньгами и правильно их тратить. Эти деньги ребенок может использовать по своему усмотрению, не отчитываясь перед родителями. Ведь строгий контроль над расходами с их стороны лишает обладание карманными деньгами смысла.

Наличие у ребенка карманных денег создает для него возможность самостоятельно принимать решение о необходимости той или иной покупки. Вместо постоянных просьб что-либо купить ребенок может сам выбрать предмет, время и место покупки. Ограниченность суммы вынуждает его определять приоритеты и анализировать возможные варианты расходования средств.

Давайте теперь разберёмся с наиболее важными и, думаю, волнующими каждого взрослого вопросами.

**С какого возраста начинать давать карманные деньги?**

Самое распространенное мнение, что начинать можно с того момента, как ребенок пошел в школу (6-7 лет). Считается, что в этом возрасте дети уже понимают, что деньги терять нельзя, их можно с пользой потратить.

**Какую сумму стоит определить для карманных денег?**

Сумма будет зависеть, прежде всего, от финансового положения семьи и от возраста ребенка. Даже если ваши возможности не ограничены, спешить не стоит. Начинать нужно с малых сумм. Определите, сколько денег ваш ребенок сможет потратить «с умом» в соответствии со своим возрастом. Понятно, что запросы и нужды детей постоянно растут вместе с ними, поэтому должны увеличиваться и карманные поступления.

**Как часто давать деньги?**

Дети, в отличие от взрослых, по-другому воспринимают время. Календарный месяц для них представляется достаточно большим сроком. Если ребенку младшего возраста выдавать карманные деньги сразу на весь месяц, то наверняка он не сможет ими грамотно распорядиться. Скорее всего, потратит всю сумму в первые же несколько дней. Он еще не умеет отслеживать состояние своих финансов. Поэтому лучше руководствоваться принципом: чем меньше возраст, тем чаще выдавать. Однако детям старшего возраста более целесообразно выдавать карманные деньги раз в месяц – это подводит их к осознанию такого важного понятия, как «бюджет».

**Как контролировать?**

Если вы жестко устанавливаете, что можно покупать на карманные деньги, а чего нельзя, то они как инструмент развития самостоятельного навыка теряют смысл. Важно научить ребенка советоваться с вами при выборе лишь дорогой покупки, например, велосипеда или какой-либо техники. Даже если ребенок заблуждается, стоит вежливо его переубедить, но окончательный выбор остается за ним. Голос родителей в процессе принятия ребенком решения должен быть исключительно рекомендательным. Финансовые неудачи – часть науки управления деньгами. Поэтому смиритесь с потерями и возможным нерациональным расходованием средств на первом этапе: хорошие уроки не бывают бесплатными.

**Нужно ли говорить с детьми о деньгах?**

Психологи рекомендуют объяснять детям, откуда берутся деньги, кто и как их зарабатывает и как распределяются траты. Это поможет ребенку ориентироваться в стоимости вещей, в понятиях «дорого» и «можем себе это позволить», разделять необходимые и необязательные покупки, а также осознавать и контролировать свои желания получить что-либо. Не стоит обозначать крайние проявления, объясняя, что семья «бедная» или «богатая», это может вызвать повышенный интерес к деньгам, развить чувство зависти или алчность.

**Как сформировать у ребёнка правильное отношение к деньгам?**

По мере взросления ребенка можно вводить его в курс экономической жизни семьи: рассказать в общих чертах, как формируется бюджет, сколько стоят основные продукты, одежда, обувь, обучение, развлечения. Ребенок при этом не обсуждает денежные вопросы наравне с родителями, но получает представление о том, как расходуются деньги внутри семьи. Накопленные и карманные деньги, которыми ребенок будет распоряжаться сам, помогут ему постепенно научиться планировать расходы.

Выдавая карманные деньги, родителям стоит придерживаться некоторых правил:

■ Выдача суммы должна быть регулярной и своевременной. Игнорирование выплаты или ее отсрочка ведут к воспитанию финансовой необязательности;

■ С самого начала ребенок должен понять, почему родители дают ему деньги и какие расходы, которые раньше несли папа и мама, ему придется покрывать из своих карманных денег. Только не забывайте, что карманные деньги – не прожиточный минимум;

■ Лишение карманных денег не должно использоваться как наказание;

■ Не меняйте правил. Если вы по каким-либо причинам вынуждены пойти на сокращение размера карманных средств, ребенку необходимо объяснить обстоятельства, вызвавшие это урезание, и добиться у него понимания. Все изменения в правилах выплаты карманного дохода должны с ребенком согласовываться;

■ Не делайте послаблений. Гоните от себя жалость и желание компенсировать своему чаду потерянные, слишком быстро или нерационально израсходованные средства. Это подведет его к мысли, что к родителям можно относиться как к страховой компании, которая в случае необходимости всегда покроет непредвиденные потери и убытки. Кроме того, это пошатнет основы финансового воспитания, которое из серьезного занятия превратится для ребенка в игру.

> **«Карманные деньги – это один из приемов воспитания, который имеет четкую цель: научить ребенка обращаться с деньгами и правильно их тратить»**

Также я хочу представить вашему вниманию, на мой взгляд, интересную информацию о том, как детей учат считать деньги за границей.

**Германия.** Карманные деньги у детей здесь приветствуются с раннего возраста. Некоторые родители начинают давать детям деньги с 5 лет.

Суммы эти, конечно же, небольшие, но условия, при которых они выдаются в некоторых семьях, учат детей распределять свои финансы. Немецкие школьники получают в среднем на свои расходы 5-20 евро. Но, при этом, многие родители сразу же забирают у детей 20% от выданной суммы (такой своеобразный налог).

Делается это не потому, что родители такие жадные и не могут расстаться со всей суммой, а с определенной целью: приучить детей, что с каждой суммы денег необходимо заплатить налог. В Германии поощряется такой способ заработка детьми, как продажа на «блошиных» рынках своих игрушек, книжек и других уже ненужных им вещей. На эти деньги (когда накопиться нужная сумма) приобретается какая-то более крупная и необходимая ребенку вещь.



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 кастрычніка 2015 г.**
***Мк 10, 46-52***

Яшчэ не ўбачыўшы, Барталамей паверыў, што Езус – гэта чаканы Месія. Не паслухаў людзей, якія адгаворвалі яго звярнуцца да Езуса і прасіць ацалення. Гучна, адважна і рашуча прасіў міласэрнасці ў Езуса, вызнаючы веру ў Яго місіянскую годнасць. З давярам і цёплымі пачуццямі прасіў аздараўлення. Езус аздаравіў яго і звязаў гэта са шчырай верай Барталамея ў тое, што Езус – чаканы Хрыстос – Месія – Збаўца. Барталамей паверыў і пасля аздараўлення пайшоў за Езусам.

*– Ці бачу я свае беды, слепату і няшчасце?*

*– А можа, я звыкся з тым, з чым нельга звыкацца?*

*– Можа, я залічыў сябе да бязбожнікаў, грэшнікаў, нешчаслівых і адкінутых Богам?*

*– Можа, думаю, што Богу няма да мяне справы?*

*– Можа, прывык жыць у свеце кепскіх, дробных, брыдкіх і грэшных спраў?*

*– Ці хачу прыкласці намаганні, каб памяняць сваё жыццё?*

*– Ці шукаю асэнсавання сваіх праблем?*

*– Ці задумваюся, што можна памяняць, а што трэба прыняць праз абмежаванасць натуры?*

*– Як я стаўлюся да сваёй слабасці?*

*– Ці размаўляю пра яе з Богам?*

*– Ці размаўляю шчыра ў спаведніцы пра свае спакусы, сумненні і абмежаванні?*

*– Ці шукаю дапамогі, парады, суцяшэння, умацавання?*

*– Ці прашу Езуса аб ацаленні?*

*– Ці раскрываю сваё сэрца перад Богам на малітве?*

*– Ці прашу Святога Духа, каб даў мудрасць, патрэбную для разумення сэнсу цярпення?*

*– Ці прашу Бога, каб даў сілы змагацца са сваімі слабасцямі і дапамог спарадкаваць іх у галаве?*

*– Ці шукаю адважна і рашуча Бога і Яго волі ў сваіх справах?*

*– Ці спыняюся я падчас перашкодаў, каб пашукаць Бога і Яго волі?*

*– Што раблю, калі бачу ў сваім жыцці Божае дзеянне?*

*– Ці вяртаюся да старога ладу жыцця і думак або пачынаю новае жыццё і яшчэ больш рашуча іду за Езусам?*

**1 лістапада 2015 г.**
***Мц 5, 1-12***

Езус публічна навучае Сваіх вучняў прынцыпам жыцця ў Божым Каралеўстве. Хто жыве паводле іх, ужо шчаслівы, бо ў ім ёсць Бог і ён на простай дарозе да вечнага шчасця ў небе. Гэта Канстытуцыя Божага Валадарства. Падказка, якой дарогай трэба ісці, каб выконваць Божую волю і стаць удзельнікам неба. У шматлікіх выпадках – гэта пераасэнсаванне свайго цярпення і перапрацоўка яго ва ўчынкі любові.

*– Ці бедны я, і толькі ў Богу мая надзея?*

*– На каго спадзяюся: на сябе ці на Бога?*

*– Ці не ўзвышаюся над Богам і над іншымі людзьмі7*

*– Ці перажываю я праз зло ў свеце?*

*– Ці ведаю я сваю абмежаванасць?*

*– Ці я пакорны і сапраўды падпарадкаваны Богу?*

*– Ці справядлівы я?*

*– Ці клапачуся пра справядлівасць у свеце?*

*– Ці ўмею я спачуваць і ці гатовы пры патрэбе дапамагчы іншым?*

*– Ці прабачаю?*

*– Ці чыстыя інтэнцыі майго сэрца?*

*– Ці не бывае так, што праз жыццё паводле Божай волі я бываю адкінуты, абсмяяны, абгавораны, пераследаваны?*

*– Ці радуюся я, калі станаўлюся падобным да Езуса?*

**8 лістапада 2015 г.**
***Мк 12, 38-44***

Вялікай небяспекай у духоўным жыцці ёсць засяроджванне на павярхоўных жэстах і формах. Вельмі спакуслівым для чалавека з'яўляецца выкарыстанне Божай справы для крывадушнага "набівання сабе цаны". Часта гэта адбываецца праз прыніжэнне іншых людзей і магутнасці Божай ласкі. Інструментам такіх паводзін з'яўляецца святатацкае выкарыстанне культу і Божай навукі. Спадарожнічаюць такім паводзінам крывадушнасць, духоўная слепата і эгаізм. Сродкам ачышчэння і інструментам "духоўнай праверкі" можа быць сапраўдная ахвярнасць і поўны давер Богу.

*– Ці няма ў мяне схільнасці выкарыстоўваць Божыя справы не згодна з Божай воляй?*

*– Ці клапачуся пра чыстасць сваіх інтэнцый?*

*– Ці размаўляю пра гэта з Богам на малітве?*

*– Ці спавядаюся з крывадушнасці?*

*– Ці вызнаю грэх прытворства перад Богам і людзьмі?*

*– Ці ахвярны я ў любові да Бога і людзей?*

*– Ці сапраўдная гэта ахвярнасць?*

*– Ці даваряю ўсе справы свайго жыцця Богу?*

*– Ці прызнаю перад Богам сваю бездапаможнасць, нікчэмнасць і слабасць?*

*– Ці дзякую Богу за атрыманыя дары?*

*– Ці дзякую Богу за дабро, якое Ён дапамог мне зрабіць?*

**15 лістапада 2015 г.**
***Мк 13, 24-32***

Ніхто не ведае дня канца свету. Гэта не асноўнае. Асноўнае – гэта жыць і быць гатовым да сустрэчы з Панам. Трэба, каб мы чувалі. Каб чакаючы вечнасці, жылі паводле закону любові. Мы не можам быць гледачамі, якія абыякава чакаюць канца свету. Мы пакліканыя, каб атуліць зямлю Хрыстовай любоўю. Каб абвяшчаць Божае Валадарства. Каб жыць паводле закону любові. Каб Пан прыйшоў у свет, які чакае Яго ў любові. Каб ўсе людзі паверылі ў любоў. У тое , што Бог ёсць Любоў.

*– Ці я жыву свядома?*

*– Ці выкарыстоўваю час, каб развіваць у сабе Каралеўства любові?*

*– Ці разумею, што вера ў Бога – гэта жыццё паводле закону любові?*

*– Ці разумею, што любоў дынамічная і не церпіць лянот ы?*

*– Як люблю?*

*– Каго люблю?*

*– Што яшчэ не паспяваю ў гэтай справе?*

*– Што трэба зрабіць, каб любіць больш і лепш выконваць закон любові?*

*– З чаго пачну?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***

---

**Франция.** Французы приучают своих детей копить деньги и вести финансовый учет приходов и расходов с раннего детства (5-6 лет). Да еще и штрафуют за всякие детские шалости и провинности, существенно уменьшая содержимое детского кошелька.

На карманные расходы французским школьникам дают 5-30 евро в неделю, и эти деньги рассматриваются больше как способ научить детей обращаться с деньгами. А если им нужно приобрести что-то более дорогое, дети, как правило, зарабатывают деньги в свободное время. Поступив в университет, многие французские дети и вовсе снимаются с денежного довольствия родителей (живут отдельно и за счет подработок).

**США.** Страна, в которой очень серьезно (можно даже сказать, фанатично) относятся к финансовой грамотности, и дети приучены работать с детства (например, им могут платить родители за домашнюю работу или подростки зарабатывают на мойке машин, стрижке газонов, в кафе и т.п.). Взаимоотношения родителей и детей сводятся в финансовом плане к простой схеме: родители стараются накопить себе больше на старость, чтобы не быть обузой для детей, а потому дети должны зарабатывать самостоятельно. На карманные расходы американским школьникам выдают 5-15 долларов. Системное образование по финансовой грамотности дети могут получить в специальных лагерях, где такое обучение проходит в игровой форме.

**Швеция.** До 20 лет шведским детям платит на карманные расходы государство – 152 доллара ежемесячно. В школе питание бесплатное. А если еще родители будут «участвовать» в этакой своеобразной «программе софинансирования», то есть добавлять к сумме, накопленной от государства, такую же от себя, то к 20-летию на счету ребенка уж точно наберется кругленькая сумма. И еще в Швеции дети также зарабатывают деньги на продаже своих ненужных вещей (одежды, игрушек, книг) и уже с 15-ти лет могут организовать свой бизнес.

**Англия.** Англичане не стараются «загружать» своих малолетних детей основами финансовой грамотности. Хотя, как правило, почти во всех семьях у детей есть копилки, куда они откладывают деньги. На карманные расходы им выдается еженедельно 8-31 доллара (в зависимости от возраста ребенка).

Также практикуется система подработок у родителей. А дети постарше, которые подрабатывают самостоятельно, иногда лишаются денег на карманные расходы.

И еще один интересный нюанс: если дети начинают зарабатывать по-настоящему и продолжают жить с родителями, они платят родителям 10% от своего заработка (так называемый родительский сбор) на оплату коммунальных услуг и продуктов. И тем самым вырабатывается понимание: не все, что сам заработал, можешь потратить только на себя.

**Турция.** Дети получают монетки (от 0,5 до 27 долларов) с самого младенчества за то, что целуют старших родственников по большим национальным праздникам. Дети-школьники получают еженедельно 5,5-16 долларов на карманные расходы. Начинают подрабатывать позже, чем в европейских странах и США, лет с 15-16, и продолжают находиться под финансовой опекой родителей.

**Венгрия.** Интересен ее опыт финансового образования: детей обучают обращаться с деньгами в процессе игры (например, «Монополия») и на уроках в школе. Карманные деньги – 12 долларов в неделю.

Надеюсь, наш разговор окажется полезным при воспитании финансово грамотного человека, а также поспособствует тому, что в будущем именно ваши дети будут управлять деньгами, а не деньги ими.



## Хвала Хрысту!



Віншуем **кс. Віктара Місевіча** з Днём нараджэння, які ён адзначае 4 кастрычніка.

Напэўна, як галоўны рэдактар ён атрымае шмат віншаванняў. І ўсё ж вельмі прыемна час ад часу яго бачыць у нашай парафіі. Жадаем яму жыцця з Божым словам, удзячнай малітвай і прыгожымі спевамі.

**Парафія св. Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава Глыбоцкага дэканата**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!





Паважаная **с. Фаўстына Цыдзік**!

З нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем Вам добрага здароўя на доўгія гады, цярплівасці і радасці. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, блаславіць Вас у складанай і адказнай паслузе, а Маці Божая няхай нястомна Вамі апякуецца.

**З малітвай і ўдзячнасцю, сем'і Місевіч і Вяршэль**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



Паважаны **ксёндз Віктар Місевіч!**

З нагоды Дня нараджэння дасылаем шмат сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога ты штодзённа трымаеш у сваіх святарскіх руках, блаславіць кожны твой дзень. Маці Божая няхай ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жыві ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю.

**З пажаданнямі, мама, тата і цёця з сям'ёй**



## Хвала Хрысту!





Мы, вернікі касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім, з вялікай радасцю і сардэчнай пяшчотай дасылаем свае віншаванні **кс. Віктару Місевічу**, які 4 кастрычніка адзначае Дзень нараджэння.

Паважаны кс. Віктар! Ад шчырага сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, Божай мудрасці і бязмежнай міласэрнасці, адвагі і мужнасці на творчай пасадзе рэдактара газеты "Каталіцкі Веснік". За апошнія гады газета стала салідным выданнем, якое імкнецца ахінуць сваім клопатам усіх вернікаў. Плёну Вам на ніве духоўнага адраджэння беларускай зямлі і працы на карысць святога Касцёла! Жадаем, каб Маці Божая нястомна дапамагала Вам у нялёгкім служэнні Богу і народу! А мы молімся за Вас.

**З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі з Глыбокага**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!





Мы, вернікі парафіі Перамянення Панскага ў горадзе Чашнікі, скіроўваем шчырыя словы віншавання і ўдзячнасці нашаму былому душпастыру **ксяндзу Славаміру Самковічу** з нагоды яго Дня нараджэння (29 верасня).

Сардэчна дзякуем, паважаны кс. Славамір, за Вашу працу па адраджэнні духоўнага жыцця ў нашай парафіі, за вяртанне веры ў душы і сэрцы чашніцкіх католікаў, за сумесныя малітвы, за клопат пра людзей, за падтрымку і дапамогу. Сардэчна дзякуем за перажытыя разам радасці і цяжкасці. Няхай Добры Бог за ўсё добрае Вам аддзячыць! Жадаем і надалей ніколі не спыняцца на шляху дабра!

Моцнага здароўя Вам, духоўнай і фізічнай вытрымкі, мудрасці і дабрыні! Няхай Бог заўсёды атуляе Вас апекай на нялёгкім святарскім шляху! Мы молімся за Вас і жадаем плённай працы на доўгія гады!

**З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з г. Чашнікі**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



Парафія Яна Хрысціцеля ў аграгарадку Опса самая звычайная. Невялічкая, бо старое насельніцтва. Моладзь выязджае на вучобу, потым уладкоўваецца ў горадзе. Застаёмся тут мы, тыя, хто моцна любіць гэтую зямлю. Да такіх людзей належыць і наш пробашч – **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч**. Ён заўсёды з намі: і ў дождж, і ў завею, і ў моцны мароз, калі замярзае ўсё. Ксёндз Эдвард – святар ад Бога. Ён цудоўна разумее нас, нашыя душы. Ён адзін вядзе ўсіх нас – ад немаўлят да сівых дзядоў і бабуль – да Бога.

13 кастрычніка – Дзень імянін нашага любімага святара. Жадаем ксяндзу Эдварду заўсёды быць на вышыні святарства. З яго дапамогай у час кожнай святой Імшы мы далучаемся да Божага Валадарства. Дзякуем Пану Богу за нашага святара. Няхай Маці Божая Ружанцовая акрые яго сваім плашчом апекі!

**Ад імя парафіянаў, Тэрэза Крумплеўская**

## Хвала Хрысту!





13 кастрычніка імяніны ў нашага шаноўнага **ксяндза Эдварда Нарадоўскага**. Хочам павіншаваць з гэтай нагоды ксяндза Эдварда і пажадаць яму моцнага здароўя, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак, поспехаў у душпастырскай працы.

Няхай Маці Божая Ласкавая заўсёды трымае Вас, паважаны ксёндз Эдвард, пад сваёй апекай, а Пан Бог шчодра адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі, памнажае мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні. Вялікі дзякуй за малітвы за нас, за цярплівасць і адданасць сваёй справе.

**З павагай, вернікі Задарожскай парафіі**



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 6667

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 21.10.2015 г. у 10.06

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь